# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.**

LE JOURNAL BIELORUSSIE „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 1–2 (335–336) | Праваслаўныя Каляды 7 студзеня 1957 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 11


# Божай Міласьцю

***Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне***

**ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРАПАДОБНАГА МАНАСТВА І ЎСІХ БОГАЛЮБНЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ**

**Усіх праваслаўных Беларусаў віншуем зь вялікім сьвятам Нараджэньня Хрыста!**

# Каляднае Пасланьне

**«Усё сяньня радуецца й весяліцца: ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ ад Дзевы ў Віфлееме».** (Калядны Сьціх).

## Улюбленыя Дзеці нашыя!

Ізноў, з Ласкі Божае, дачакаліся мы славіць РАСТВО ХРЫСТОВАЕ й натхнёна пакланяцца Спасіцелю нашаму ў Асобе Боскага Дзіцятка. Гэтая нашая нявымоўная радасьць і пакланеньне Яму сьветчаць аб нашай Веры ў Боскае Ўцелаўленьне, у злучэньне Бога, Ісуса Хрыста, з нашаю людзкаю прыродаю.

Мы ведаем, што ў гэтай сьвятой містэрыі злучэньня Бога з чалавекам, ніякія людзкія немачы, тым болей грахі, ня былі спалучаныя зь Ім, Спасіцелем нашым. Аднак, стаўшы Чалавекам, Ён прыняў на Сябе ўсе нашыя слабасьці: цярпеньня цела й душы, голад і смагу, сум і змучаньне дый асабліва сьмяротнасьць, як і кажа прарок: «Ён узяў на Сябе ўсе нашыя немачы, усе нашыя хваробы» (Іс. 53, 4).

Сьмяротны грэх Адама быў праступкам супраць бясконцае годнасьці Госпада Бога, таму й зьняць гэты праступак магла толькі Асоба бясконцае годнасьці. Так, толькі Боская Асоба магла зьняць гэты сьмяротны грэх з людзей. Аднак, Боская Асоба не магла быць паніжанаю, тым болей сьмяротнаю, таму Сын Божы й прыняў нашую людзкую прыроду, нарадзіўся як Чалавек!

І адсюль нашая вялікая радасьць, гонар, пацеха й бязьмежная падзяка Госпаду Міласэрнаму, што Ён паслаў Адзінароднага Сына Сваяго, Ісуса Хрыста, для спасеньня людзей, як Ён Сам і сказаў: «Бо Сын Чалавечы ня дзеля таго прыйшоў, каб Яму служылі, але каб паслужыць і аддаць душу Сваю для спасеньня многіх» (Мц. 20, 28). Так ясна Спасіцель наш паказаў нам Місію Сваяго Нараджэньня, Сваяго Прыходу зь Неба на зямлю: змыць наш грэх першародны, адкрыць нам дзьверы Раю, падняць нас да вышыняў Нябесных!

Таму й усякі іншы грэх можа быць дараваны толькі праз Яго, і Ласку Божую мы можам атрымаць толькі як плён Ягоных пакутаў і сьмерці. Так, толькі Хрыстос нашае спасеньне! Аднак, гэта ня значыць, што Хрыстос пашле нам Ласку Сваю й спасеньне без нашае добрае волі, без нашых добрых чынаў. Ягоная бязьмежная Любоў да нас праяўляецца ў тым, што Ён усіх нас кліча да Сябе, да спасеньня нашае душы зь Ім і праз Яго. Таму асабліва цяпер, у часе Нараджэньня Яго, пасьпяшым усе да ясьляў Дзіцятка з фіміамам нашае любові, міласэрдзя, узаемнага выбачэньня ды іншых добрых, любых Яму, чынаў нашых, праз іх будзем славіць і праслаўляць Яго, бо вось што Ён Сам кажа нам: «Прыйдзе Сын Чалавечы ў славе Айца Сваяго з Ангеламі Сваімі, і тады аддасьць кажнаму паводля ўчынкаў яго» (Мц. 16, 27).

І аб гэтым будзем памятаць асабліва цяпер, калі мы раскіданыя па ўсім сьвеце, па катаргах і высылках і патрабуем Ласкі Яго. Асабліва цяпер усе мы бы хацелі быць разам у сваей роднай хаце за сталом з пахучым сенам ля ясьляў Дзіцятка! Асабліва цяпер мы бы хацелі, каб сьвятло Зоркі Віфлеемскае зьзяла ў душах і сэрцах нашых на нашай Роднай Зямельцы ў коле нашых семьяў, пры сьпеве нашых званоў у родных Цэрквах! Так, любыя дзеці нашыя, гэта нашае добрае й сьвятое жаданьне. Але яно споўніцца толькі тады, калі Ласка Нованароджанага Дзіцятка будзе з намі, калі з намі будзе Ягонае Багаславенства.

Злучымся жа ў гэтую Сьвятую Ноч, у гэтыя багаслаўленыя Дні РАСТВА ХРЫСТОВАГА ў вадну дружную, брацкую, Богу мілую сямейку, і ўсе разам з пакораю, цьвёрдаю Вераю й палымяннаю любоўю да Яго будзем прасіць Ягонае Ласкі й Багаславенства для сябе й для нашае любае пакутніцы Маці-Беларусі! І Ён, Спасіцель наш, выслухае малітвы нашыя, пашле нам Ласку Сваю, багаславіць нас, будзе з намі. Тады запраўды мы будзем мець добрую надзею на скорае заканчэньне пакутаў нашых і нашая радасьць ў гэтыя Сьвятыя Дні будзе тою радасьцю, аб якой апавядае нам сьв. Апостал Лука: «І сказаў ім Ангел: Ня бойцеся! бо вось я абвяшчаю вам вялікую радасьць, што будзе ўсім людзям. Бо цяпер Нарадзіўся вам у Віфлееме Спасіцель, Каторы ёсьць Хрыстос Гасподзь» (Лк. 2, 10—11).

І з гэтаю радасьцяй, цьвёрдаю Вераю й непахіснай Надзеяй у перамогу Праўды Божае, і палымяннаю Любоўю да Нованароджанага Бога й Спаса нашага, вітаем вас, усячэсныя Айцы й любыя Браты й Сёстры зь вялікім і радасным Сьвятам РАСТВА ХРЫСТОВАГА й з надыходзячым НОВЫМ ГОДАМ. Любеце сябе ўзаемна, а больш усяго Госпада нашага Ісуса Хрыста, бо «Бог нам прыпынак, і сіла, і магутная ў бядзе ўспамога» (Пс. 47, 2).

Жадаем усім вам натхнёнае, незямное радасьці ў гэтыя Сьвятыя Дні, і пасылаем вам нашае Архіпастырскае Багаславенства. Калі мы будзем з Богам і Бог будзе з намі, а зь Ім нашая радасьць, шчасьце й перамога на зямлі й спасеньне на Небе.

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа будуць з усімі вамі. АМІНЬ.

**† ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП СЯРГЕЙ**

Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

**† ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ**

Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне.

Дана Року Божага 1956 месяца сьнежня

Аўстралія — Амэрыка.



«Паклон пастушкоў» абраз галяндзкага мастака Гэрарда ван Гонтгорста (1590—1656)

**РЫГОР КРУШЫНА**

## НА КУЦЬЦЮ

**(Урывак з паэмы «Калыханка»)**

**Мужай· змучаная змоладу!**
**Загояц ра.у дні.**
**Ужо так блізка сьвята Колядаў.**
**Запальваюць агні.**
**А дзедаў звычай ненарушаны,**
**Ён сільны на сяле.**
**І сена выскубень раструшаны,**
**Бы ў ясьлі, па стале.**
**І зьверх настольнікам засьцелена**
**На урачысты час,**
**Ляжыць багацьце поснай еміны:**
**З алеем бульба, квас,**
**Гуркі салоныя, гарохаўка,**
**Салоджаны сухар,**
**Капуста квашаная з моркаўкай**
**І яблычны узвар.**
**Кісель аўсяны і варэнікі,**
**Сачэні а блінцы,**
**А зь мёдам печаныя пернікі,**
**Грыбы ды селядцы.**
**Стаіць паважна поўнай місаю**
**Славутая куцьця.**
**Вось гаспадыня памалілася.**
**І любае дзіця**
**Ўзяла на рукі. Села з Тодарам**
**У покуць ля стала.**
**Прыемна пахне ў хаце водырам**
**Ад сена, ад цяпла.**
**Гарыць, як жар, сьвяча васковая,**
**Спаўзае долу цьма.**
**Вакол куцьці радня вясковая —**
**Дзядзькі, сьвякроў, кума.**
**І цяплыня. І словы ўцешныя**
**Зрынаюць думак жудзь.**
**Там, пад вакно, праз гурбы сьнежныя**
**З батлейкаю ідуць.**
**Зьвязда стаіць ля падваконьніка**
**І зьзяе. Любата!**
**У чэсьць народжанага Сонейка —**
**Збавіцеля Хрыста.**
**Сьпяваюць песьні калядоўшчыкі.**
**І ў зорнай цішыні**
**Цудоўны гімн гарачым пошчакам**
**Разносіцца, зьвініць.**
**Змывае хвалямі магутнымі**
**Нагар з душы людзкой.**
**Паміж гаротнымі, пакутнымі**
**Ўстае сьвяты спакой.**

# Калядная гутарка

Дарагія суродзічы-Беларусы!

Каляды — сьвята ціхай радасьці і яснае надзеі. Ад таго дня, калі ў Бэтлеемскай стайні нарадзіўся Ісус Хрыстос — Сын Божы, увесь сьвет лічыць час новай эры. І зусім слушна, бо ў гэты дзень на зямлі зьявіўся Той, Які навучыў людзтва любіць, прабачаць, ахвяроўваць сябе для шчасьця іншых. У гэтым — вялікая і няскончаная мудрасьць хрысьціянскай навукі — навукі Хрыста. Прыкладам свайго жыцьця і сваёй сьмерці Хрыстос апраўдаў гэтую навуку. А найлепшым доказам гэтага ёсьць той гістарычны факт, што не мячом, агнём, тэрорам і насільствам, але толькі пераконваючым словам ды прыкладам гэтая навука і ідэя здабыла мільярды людзей і пакарыла ўвесь сьвет.

Таму як-жа сьмешна і нэндзна выглядаюць сёньня шаманы, якія называюць сябе «пракокамі» нейкіх матэрыялістычных ідэяў і сьветапаглядаў, і намагаюцца пашыраць гэтыя ідэі брутальнай сілай зялеза — танкамі й кулямётамі. І што-ж мы бачым? — На танкі й кулямёты ідуць амаль безбаронныя пад-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Стаімо ў вабліччы невядомага

Сяньня ўжо няма найменшага сумлеву, што Савецкі Саюз, а разам зь ім і сьветавы камунізм перажываюць глыбокі крызіс, найглыбейшы за ўвесь час існаваньня Савецкага Саюзу, як цэнтру й носьбіта камуністычнага руху ў цэлым сьвеце. Расклад камунізму адбываецца на трох геапалітычных франтох, якія абыймаюць фактычна ўсю зямную кулю.

Пачалося ад г. зв. сатэлітных краінаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы. Выпадкі ў Польшчы й Вугоршчыне паказалі, што камунізм за зялезнай заслонай ня толькі ня прывіўся, але стаўся найбольш зьненавіджанай антынароднай сыстэмай і найгоршай формай расейскага імпэрыялізму й каляніялізму. Выпадкі за зялезнай заслонай паказалі таксама, што змаганьне з гэтым злом зьяўляецца там найглыбейшым маральным наказам і апошнім самазахаваўчым актам людзей і народаў. Ня гледзячы на безаглядны савецкі тэрор пры адначаснай пасыўнасьці Захаду, паўстаньня ў Вугоршчыне не ўдалося здушыць вось ужо на працягу больш як двух месяцаў, а сяньня ёсьць сымптомы, што яно ў тэй або іншай форме будзе прадаўжацца яшчэ доўгі час. Гэтаксама ў Польшчы. Ня гледзячы на іншую, чымся ў Вугоршчыне, форму нацыянальнае рэвалюцыі ў Польшчы, якая прынесла гэтай краіне шмат сур'ёзных удачаў улучна із згодай Масквы на «собскія шляхі да камунізму», Палякі гэтым не задаволіліся. Антысавецкія рэвалюцыйныя рухі ў Польшчы з кажным днём павялічваюцца й пагражаюць сур'ёзнымі камплікацыямі. Усьлед за Польшчай і Вугоршчынай, антысавецкія ўзрухі заначыліся ў Румыніі, Баўгарыі, Славаччыне й насьпяваюць у Ўсходняй Нямеччыне.

Гэтыя антысавецкія акты паняволеных народаў, выконваныя работнікамі й моладзьдзю, а з другога боку крываве іх душэньне савецкімі танкамі й самалётамі, зьдзёрлі напасьледак хвальшывую маску з савецкае прапаганды й паказалі перад сьветам савецка-камуністычную сыстэму ўва ўсей яе жахлівай запраўднасьці.

Таму другім фронтам антыкамуністычнага руху стаўся ў вялікай меры сам камунізм краінаў вольнага сьвету. Шырокія масы камуністых Захаду, гэтак званых спадарожнікаў і сымпатыкаў, а так-жа людзей нэўтральных змаглі на падзеях за зялезнай заслонай пераканацца, што паміж камуністычнай тэорыяй і савецкай прапагандай з аднаго боку, а ейнай практыкай у дзяржавах камуністычнага блёку існуе бяздонная пропасьць. Страты камуністых, спрычыненыя ім у вольным сьвеце, зьяўляюцца неаблічальна вялікія й грозныя для будучага лёсу камунізму.

I, напасьледак, трэйці фронт антыкамуністычнага руху пачаў выразна зарысоўвацца і ў самым Савецкім Саюзе, дзе на працягу 39-ёх год рабілася ўсё і ўсімі магчымымі спосабамі, каб із сьведамасьці народаў выкараніць навет думку аб іхным вызваленьні. Студэнцкія дэманстрацыі ў Маскве й Ленінградзе, работніцкія забастоўкі, а галоўна антысавецкія фэрмэнты сярод нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу маюць сваю глыбоку вымову. На Захад дайшлі весткі, што ўкраінскія паўстанцы ў Карпатах узрывалі масты й чыгуначныя лініі, каб затрымаць ваенныя транспарты, што йшлі ў Вугоршчыну для здушэньня паўстаньня. Сакратар ЦК летувіскай камуністычнай партыі нядаўна на сэсіі Вярхоўнага Савету Летувіскай ССР адкрыта заявіў: **«Пад уплывам падзеяў у Вугоршчыне рэакцыйныя элемэнты ў Летуве намагаюцца кідаць наклёпы на камуністычную партыю і ўрад рэспублікі ды сеяць недавер да іх, ідэялізуючы буржуазію й падбураючы Летувісаў супраць Расейцаў».** Даходзяць таксама весткі аб антысавецкіх выступленьнях у Эстоніі й іншых саюзных рэспубліках. Гэта найлепшы довад, што і ў самым Савецкім Саюзе распачаўся глыбокі антысавецкі фэрмэнт, які можа аказацца яшчэ больш небясьпечным для савецкай сьстэмы, чымся нацыянальна-вызвольныя рухі ў сатэлітных краінах або расклад камунізму ў краінах вольнага сьвету.

Усё гэтае, разам узятае, паказвае, што пачаўся стыхійны й спантанічны антыкамуністычны рух у цэлым сьвеце, што савецкая сыстэма поўнасьцю збанкрутавала, а савецкія правадыры апынуліся перад небясьпечным выбарам: або пайсьці на сур'ёзныя ўступкі паняволеным народам і тым самым палажыць пачатак канца ліквідацыі самой-жа сыстэмы, або сілаю тэрору прывярнуць той стан, які быў пры Сталіне. На Захадзе паважна ломяць сабе галовы ў згадваньнях і прадбачваньнях, якім з гэтых двух шляхоў пойдуць савецкія правадыры і, у залежнасьці ад гэтага, больш небясьпечны, які могуць вы- Але ёсьць яшчэ й трэйці шлях, шмат больш небясьпечны, які могуць выбраць крэмлёўскія валадары й аб якім на Захадзе пакуль што гавораць толькі неафіцыяльныя палітыкі ды некаторыя публіцыстыя. Але аб гэтым у канцы гэтага артыкулу.

З чаргі прыгледзімся, якую пазыцыю ў дачыненьні да бягучых падзеяў намагаецца заняць Захад ды што новага ў гэтым сэньсе прынесьлі нам апошнія дні.

Сяньня ўжо дастаткова сталася ясным, што Захад ня мае найменшага намеру выкарыстоўваць цяперашняй слабасьці Савецкага Саюзу. Дзяржаўны сакратар ЗША Далес нядаўна на прэсавай канфэрэнцыі ў Вашынгтоне заявіў, што Задзіночаныя Штаты ня хочаць выкарыстоўваць сытуацыі ў Усходняй Эўропе супраць Савецкага Саюзу. Ён дадаў, што Задзіночаныя Штаты ня будуць імкнуцца зрабіць з усходня-эўрапэйскіх савецкіх сатэлітаў сваіх саюзьнікаў ані акружаць Савецкага Саюзу поясам варожых яму краінаў. Гэтае асьветчаньне Далеса трэба браць як палітычнае крэдо ўсяго Захаду, бо такія пагляды ўжо ня раз выказвалі іншыя кіраўнікі амэрыканскай палітыкі, ня вылучаючы прэзыдэнта Айзэнгаўэра. Гэтую-ж палітычную лінію поўнасьцю падзяляе Лёндан, Парыж і Бон.

Дык няўжо тады Захад узапраўды жадае памагчы Савецкаму Саюзу выйсьці пераможна зь цяперашняга крызісу? — запытае не адзін наш чытач. У ніякім выпадку, не жадае!

Але Захад панічна баіцца, што далейшыя рэвалюцыйныя выбухі за зялезнай заслонай і ўмяшаньне ў іх Захаду могуць лёгка прывесьці да трэйцяе сьветавае вайны. Заходняя прэса адзначае, што хаця між Захадам і Савецкім Саюзам дачыненьні моцна завайстрыліся і між імі існуюць толькі супярэчнасьці, у вадным-жа пункце яны згаджаюцца — гэта, каб наступіла ўспакаеньне ў Усходняй Эўропе. Гэты палітычны парадокс выясьняецца страхам Захаду перад Саветамі, перад справакаваньнем апошніх да вайны, аб чым мы ўжо ня раз пісалі ў вапошніх нумарох «Бацькаўшчыны».

Захад асабліва баіцца антысавецкага паўстаньня ў Усходняй Нямеччыне. У гэтай справе вельмі важным было асьветчаньне заходнянямецкага міністра замежных справаў фон Брэнтано на нядаўняй канфэрэнцыі Атлянтычнага пакту ў Парыжы. Ён падчыркнуў, што калі ў Усходняй Нямеччыне выбухне антырасейскае ці антыкамуністычнае паўстаньне, дык ягоныя вынікі могуць стацца вельмі грознымі, і асьветчыў, што нельга разьлічваць на тое, што насельніцтва Заходняй Нямеччыны будзе бязьдзейна прыглядацца да такога паўстаньня. Калі ў такім выпадку будзе ўцягнутая ў вайну Заходняя Нямеччына, дык і ейныя саюзьнікі з Атлянтычнага пакту ня могуць астацца бязьдзейнымі, бо яны забавязаныя да абароны Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі. Фон Брэнтано дадаў, што небясьпека трэйцяе сьветавае вайны існуе толькі ў Усходняй Эўропе, а не на Сярэднім Усходзе, дзе Саветы маюць і так шырокія магчымасьці без вайны пашыраць свае ўплывы. Крэмль галоўна заалярмаваны бунтамі ў Усходняй Эўропе і ў Саветах што раз часьцей адзываюцца галасы за поўным зьнішчэньнем цітаізму, дзе-б ён толькі не паявіўся. Напасьледак фон Брэнтано перасьцярог, што да справаў Усходняй Эўропы трэба падыходзіць зь вялікай асьцярожнасьцю і нікога не заахвочваць да ніякай драматычнай акцыі, якая магла-б прывесьці да вайны.

Гэтая заява нямецкага міністра вызначае палітычную лінію ў справах Усходняе Эўропы й цэлага Захаду. Праўда, канфэрэнцыя Атлянтычнага пакту прыняла запрапанаваную тым-жа фон Брэнтано пяцёхпунктавую рэзалюцыю ў справе Сярэдня-Ўсходняе Эўропы, аднак рэзалюцыя гэтая зьяўляецца нічым іншым, як прапагандовым жэстам, а ей-

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

# Трагэдыя й ворагі работніцтва

### Пад гукі рэвалюцыйных мэлёдыяў

Змучаныя, галодныя й худыя яны няраз густымі калёнамі выходзілі на вуліцы з патрабаваньнем для сябе людзкіх правоў. Ня рэдка за гэтыя патрабаваньні ім прыходзілася плаціць сваёй крывёй. І тым ня менш, бязвыхаднасьць гнала іх на барыкады, а гукі рэвалюцыйных мэлёдыяў будзілі прыспаную нядоляй надзею на лепшую будучыню сярод штораз гусьцейшых масаў працоўных.

Доля работнікаў індустрыяльных краёў у мінулым стагодзьдзі была запраўды чорнай. Заканадаўства, якое магло-б бараніць іхныя сацыяльныя й эканамічныя правы, яшчэ толькі што нараджалася, а таму й не магло яшчэ супрацьставіцца тагачаснаму захланнаму капіталізму. У гэтым моры сацыяльнай несправядлівасьці й агіднай эксплятацыі маленькімі абточкамі пачыналі зарысоўвацца паасобныя арганізацыйныя дзеі й ініцыятывы накіраваныя калі не на радыкальныя рэвалюцыйныя крокі, дык прынамсі на паступовую зьмену існуючых парадкаў. Спачатку ў вабарону працоўных становяцца асьвечаныя й шляхотныя, хоць і не шматлікія, адзінкі зь іншых, упрывілеяваных клясаў, а зь бегам часу штораз больш павялічваюцца й вядучыя кадры, што выйшлі ўжо з работніцкага асяродзьдзя. У выніку-ж, побач манапольнай сілы касмапалітычнага капіталізму вырастае новая сіла — міжнародная сіла работніцтва. Клясавая сьведамасьць работніцтва ўзмацняецца; яна засвойвае прынцып: свой капіталісты гэткі-ж самы вораг, як і замежны, замежны-ж работнік гэткі самы праяцель, таварыш, як і свой. Сацыялістычныя й рэвалюцыйныя лёзунгі падаюць на ўдзячную глебу. Работнік выпрастоўвае плечы, падымае галаву й запраўды пачынае верыць, што «Мы наш, мы новы сьвет збудуем! Хто быў нічым, той стане ўсім». Ён ня мог тады ведаць, што гэтыя радкі калісьці будуць гучэць для яго самай горкай іроніяй…

### Ілюзіі й зрада

І вось падае ў грузы гнілая, пераедзеная нутранымі нацыянальнымі й сацыяльнымі супярэчнасьцямі расейская царская імпэрыя. «Хвабрыкі работнікам!» Які работнік не падтрымае такога клічу!? «Сьмерць буржуям!» Ці-ж не заразьліва гучаць гэтыя два словы для вуха загітаванага работніка, які ад дзесятага году свайго жыцьця працаваў у нялюдзкіх умовах ля станка ды больш за тры гады гібеў у вакопах, у той час, як ягоны эксплятататар зарабляў на вайне новыя міліёны?

Наражаецца новая ўлада, улада працоўных. Прынамсі так думаюць і ў гэта вераць работнікі. Яны яшчэ ня ведаюць, што іх ужо зрадзілі, што яны — гэта толькі зброя ў руках групы добра зарганізаваных зраднікаў працоўнае клясы, прагных улады за ўсялякую цану. Калі на Ўсходзе шпаркімі крокамі праходзіць штораз больш жорсткае паняволеньне й эксплятацыя працоўных пад акампаньямэнт тых-жа самых рэвалюцыйных мэлёдыяў і лёзунгаў (ці-ж ня гіронія лёсу?), дык на Захадзе работніцтва глядзіць на Маскву, як на правадную зорку. Панявольнікі працоўных становяцца ў вачох заходняга работніцтва героямі змаганьня за лепшую долю работнікаў ува ўсім сьвеце. Навет шырока прымененае на Захадзе заканадаўства ў вабарону інтарэсаў работнікаў ды вялізарная паправа жыцьцёвага ўзроўню ня можа адцягнуць іхнага пагляду ад Масквы. І несправядліва было-б ставіць ім гэта ў закід, бо яны запраўднага паложаньня ў СССР ня ведалі, а калі ім аб гэтым гаварылася, дык, ізноўжа, у ігру ўваходзіла адвечнае «пакуль не пабачу — не паверу». У іншых-жа выпадках той ці іншы пробваў развaжаць: як працоўны можа зьдзеквацца над працоўным, а ў выніку даходзіў да высnаву, што гэта немагчыма. У самых-жа ўжо асновах такога разважаньня скрывалася агромная памылка, бо там панявольнікам быў не працоўны: «дзяржава працоўных» зьвярнула на традыцыйны расейскі шлях і на чале яе стаяў ужо новы цар і дэспат, успамаганы новымі апрычнікамі.

І хоць улада апрычнікаў расьцягнулася й дасягнула сэрца Эўропы, усё-ж шматлікія з працоўных не маглі пазбыцца сумлеваў: «ня можа быць — гэта ўлада работніцка-сялянская». І ілюзіі далей бралі верх над рэчаіснасьцяй.

### Ізноў на барыкадах

Тымчасам тыя, што «пабачылі», адкрылі страшную праўду. Вынікам гэтага адкрыцьця было тое, што ў Вугоршчыне супраць танкаў «арміі работнікаў і сялян» пайшлі работнікі й сяляне ды іхныя дзеці. Адразу разьвеяліся ўсе міты аб г. зв. «уладзе працоўных». З гэтае ўлады зьдзерлі аблудную маску й з-пад яе паказаўся жудасны твар расейскага імпэрыялізму. Зь лёзунгамі «Прэч Расейцаў!» «Прэч акупантаў!» паўстаў увесь народ. Тут ужо не памагла савецкая прапаганда, на момант адчынілася зялезная заслона й сьвет пабачыў, хто такія «фашыстыя й контррэвалюцыянэры» ў савецкім разуменьні.

Разам зь зялезнай заслонай, але ўжо ня толькі на момант, разьвеялася прапагандовая заслона перад вачыма шматтысячных масаў работнікаў заходніх краёў, якія належалі дагэтуль да камуністычнае партыі. Тысячы парваных ці паадсыланых назад партыйных білетаў, шматлікія антыкамуністычныя дэманстрацыі, байкот савецкіх караблёў, разгон партыйных агітатараў і інш. — вось што пала ў вадказ камуністым ад работнікаў за сьмерць іхных братоў на бруку Будапэшту. Трэба справядліва адцеміць, што рэакцыя работнікаў на савецкія гвалты ў Вугоршчыне была больш адналітай і куды мацнейшай, чымся іншых пластоў насельніцтва. Калі йдзе пра матар'яльную дапамогу вугорскім змагаром, дык таксама аказалася, што прапарцыянальна найбольш далі якраз тыя, што найменш мелі — ізноў-жа работніцтва.

### Зраднікі й ворагі працоўных

Нельга аднак забывацца, што ў той час, калі кроў работнікаў яшчэ ня высахла на барыкадах узьнесеных супраць «улады працоўных», яшчэ значная частка работніцтва заходніх краёў знаходзіцца ў павуціньні маскоўскіх павукоў ды іхных заходніх памагатых. І ў гэтым найбольшая трагэдыя работніцтва. Адказнасьць за гэтую трагэдыю падае аднак не на тых работнікаў, што ў той ці іншай меры трымаюцца яшчэ камуністычнага боку, але якраз на тых вырадкаў, зраднікаў і ворагаў працоўных, якія запрадаўшы свае душы Маскве, імпэрыялістычныя інтарэсы гэтае апошняе ставяць вышэй дабра працоўных. Можна яшчэ пагадзіцца, калі звычайны заходні работнік сутнасьць камунізму бачыць у палепшаньні дабрабыту, у сацыяльнай справядлівасьці й роўнасьці, у прапарцыянальным разьмеркаваньні народных даходаў і г. д. Што ён можа больш ведаць аб камунізьме, а тым больш аб ягоных «дабрадзействах» у практычным прымяненьні? Але затое, калі вылазіць на трыбуну асьвечаны прайдзісьвет, што мянуе сябе змагаром за інтарэсы працоўных, ды гэтым самым працоўным абяцае тое, чаго, як сам добра ведае, ніколі камунізм даць ня можа; калі ён расказвае аб дабрабыце савецкага работніка, ведаючы ягоную галечу; калі ён заклікае працоўных падтрымоўваць усе маскоўскія дэструкцыйныя ініцыятывы й мерапрыемствы, аб якіх сам добра ведае, што яны ў першую чаргу, а то й поўнасьцяй, служаць імпэрыялістычным мэтам Масквы, — дык праступстваў гэтакіх тыцаў ня могуць апраўдаць, ніякія лагодзячыя акалічнасьці. Хай яны не апраўдваюць сваім ідэялізмам і ахвярнасьцяй, ім далёка да гэтага, гэтым вырафінаваным наёмнікам і кар'ерыстым, што будуюць сваю кар'еру на зрадзе працоўнае клясы.

Возьмем верных Маскве лідэраў і сяброў цэнтральных камітэтаў камуністычных партыяў заходніх краёў. Ці-ж хоць

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

# Калядная гутарка

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

леткі і гэтыя танкі зьнішчаюць. Але ў гэтых падлеткаў ёсьць іншая сіла, якая зьнішчыць матэрыю — сіла духу, вера і любоў да свабоды — ўсё тое, што прынесла на сьвет Навука Хрыста, Дзень Раства Якога мы цяпер сьвяткуем. Гэтая навука — нязьнішчальная скала, аб якую разьбіваліся цёмныя сілы зла й праступства.

Дарагія суродзічы!

Дзень Раства нашага Збаўцы — Ісуса Хрыста, даў натхненьне нязьлічанай колькасьці мастакоў. Гэты Дзень знайшоў сваё адлюстраваньне ў нязьлічоных творах: паэзіі, малярстве, скульптуры, музыцы. Але больш трывалай, чымся на паперы, палатне, у мармуры й тонах гэты Вялікі Дзень упісаўся ў душах людзей. Калі мы толькі прыгадаем нашыя беларускія абрады й звычаі, зьвязаныя з Каляднымі сьвятамі — мы ўсьведамім, якой вялікай падзеяй было Нараджаньне Хрыста.

«Хвала на вышнях Богу, а на земле супакой людзём добрай волі», — так сьпяваў хор Ангелаў над Бэтлеемскай стайняй, калі у ёй нарадзіўся Хрыстос.

Дарагія суродзічы!

Над нашым краем — ветлай Беларусяй, як і над іншымі краінамі, сяньня яшчэ лютуе валадарства зла, цемры й прыгнёту.

Але нараджэньне Хрыста, якое сёньня мы сьвяткуем ёсьць нам зарукай, што праўда заўсёды пераможа фальш, дабро затрыюмфуе над злом, а сьвятло расьцярушыць цемру. Вечнай Божай Праўды, якую пацьвердзіў Хрыстос, не змаглі і ня змогуць зьнішчыць цёмныя сілы матарыялістычных шаманоў.

Мы сказалі, што Каляды — сьвята ціхае радасьці і яснай надзеі. Хай-жа ў нашых душах, хатах і ў нашым краі жыве гэтая радасьць, надзея й вера ў перамогу й свабоду, якія йдуць якія прыйдуць.

«Хвала Богу на Вышынях, а на зямлі супакой людзям добрай волі» Амінь.

# За мінулы тыдзень

(пс) Бальшавіцкі тэрор далей лютаваў у Вугоршчыне і далей працягваўся геройскі і ўпорысты супраціў вугорскага народу, які выяўляўся ў забастоўках, байкоце, а мясцамі — і ў збройных сутычках.

Генэральная Асамблея АЗН урэшце вялізарнай бальшынёй галасоў прыняла рэзалюцыю, у якой войстра ганьбавалася савецкая інтэрвэнцыя і ставілася дамаганьне вываду савецкага войска з Вугоршчыны ды дапушчэньня туды назіральнікаў АЗН. Аднак, як мы ўжо сказалі, ад гэтага не пагоршала бальшавіком ані палепшала Вугорцам. Такая рэзалюцыя мела-б вартасьць толькі тады, калі-б АЗН мела змогу і наважанасьць правесьці яе ў жыцьцё, г. зн. змусіць Маскву падпарадкавацца пастановам Арганізацыі. У іншым-жа выпадку, рэзалюцыя стаецца бязвартасным шматком паперы ды яшчэ кампрамітуючым аўтараў.

* * *

Ангельцы й Французы канчальна эвакуаваліся з Эгіпту. Насэр пасьмялеў і пачынае таргавацца з Гамэршэльдам ды ставіць яму варункі. За ачышчэньне Суэскага каналу яшчэ не ўзяліся і, здаецца, Насэр менш сьпяшаецца, чымся дзяржавы, якія карысталіся гэтай артэрыяй. Затое эканамічнае палажэньне ў Ангельшчыне й Францыі значна пагоршылася з прычыны недахопу арабскага паліва.

* * *

Апошнім тыднем у сьвеце шмат пісалася й дыскутавалася аб праблеме стварэньня шырокае нэўтральнае, здэмілітарызаванае, зоны паміж Савецкім Саюзам і Захадам. Канцэпцыя гэтае зоны ня новая, аднак да гэтага часу ёю мала цікавіліся. Паводля яе, Амэрыка й Ангельшчына вывелі-б свае войскі з Заходняй Нямеччыны, а Савецкі Саюз — з г. зв. краін-сатэлітаў. Цяжка прадбачваць, ці гэтая канцэпцыя будзе прынятая й рэалізаваная. Пакульшто ўрадавыя колы абодвух бакоў паўстрымоўваюцца ад забавязваючых выказваньняў на гэтую тэму. Праўдападобна, заходнія дзяржавы чакаюць на вынік нарадаў ЦК КПСС у Маскве, каб зар'ентавацца, якія будуць далейшыя кірункі бальшавіцкае палітыкі. Вельмі сумлеўна, што Масква згодзіцца на гэтую канцэпцыю, бо гэтым самым мусіла-б адступіць за межы з 1941 году. Магла-б гэта зрабіць толькі пад выразнай пагрозай, што будзе адтуль выціснутая, аднак такой пагрозы не назіраецца.

Рэч зразумелая, у гэтай канцэпцыі не бярэцца пад увагу вызваленьня Беларусі, Украіны ці балтыцкіх краінаў.

Думаем, што пра гэтую канцэпцыю нэўтралізацыі Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы гаварыў Нэру з Айзэнгаўэрам падчас ягонага падарожжа ў ЗША.

* * *

Нэру — постаць каляровая ня толькі па сваёй вопратцы й скуры. Апошнімі гадамі ён выяўляе вялізарную рухлівасьць і камівояжэрскія нахілы. Апостал нэўтралізму, прарок раззбраеньня, шаман каэгзыстэнцыі, ён — прошаны ці няпрошаны — заўсёды гатоў служыць пасярэднікам, заўсёды накідваецца з сваімі плянамі, канцэпцыямі, праектамі. Толькі цікава, што да ўсіх ягоных плянаў і канцэпцыяў найбольш прыхільна адносіцца Масква… Нэру, хоць выхоўваўся на Захадзе, спантанічна ненавідзіць Захад, таму яму заўсёды лягчэй знайсьці супольную мову з Насэрам ці маскоўскімі сатрапамі.

Камуністычная прапаганда заўсёды вельмі ахвотна цытавала выказваньні Нэру. Як ведама, Нэру кажны дзень выконвае гімнастыку, якую прапагуе навука ёгаў ды якая палягае на стаяньні на галаве. Праўдападобна, гэта добра ўплывае на сьвежасьць думкі і гарантуе даўгавечнасьць. Можа гэтая ёгаўская гімнастыка ўплывае, што і ў палітыцы Нэру часта становіцца ўверх нагамі. Вугорскія падзеі быццам-бы працьверазілі ягоныя бальшавіцкія ачараваньні й змусілі крытычна выказвацца аб маскоўскай інтэрвэнцыі, аднак і тут яшчэ Нэру становіцца на галаве, каб завойстра не асуджаць захопнікаў. Вось хоць ён гаварыў, што ягоныя візыта ў Амэрыцы і кантакт з Айзэнгаўэрам спрычыніліся да лепшага ўзаемнага зразуменьня, аднак калі ў яго запыталіся, ці ён лічыць Савецкі Саюз каляніялістым, Нэру разьвёў такую мутную сафістыку аб розных інтэрпрэтацыях каляніялізму, зь якой вынікала, што ён яшчэ не зашмат зразумеў. Калі гімнастыка ёгаў запраўды спрычыняецца да даўгавечнасьці, Нэру можа дачакацца савецкае аплявухі і зразумее больш.

## Стаімо ў ваблічны невядомага

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

ны чацьверты пункт, што **«Нельга паслугоўвацца сілай ці вайсковай пагрозай або палітычным ці гаспадарскім націскам дзеля ўплыву на разьвіцьцё здарэньняў у краёх Усходняе Эўропы»**, можа быць інтэрпрэтаваны, як хаця.

Сытуацыю ў Усходняй Эўропе плянуе Захад выкарыстаць толькі ў такі спосаб, каб папрабаваць яшчэ раз дагаварыцца з Савецкім Саюзам у справе ўжо даўно ведамага праекту стварэньня нэўтральнага пояса між Саветамі й эўрапэйскім Захадам. Гэты праект асабліва папулярны ў Вялікабрытаніі й Францыі й аб ім цяпер шмат гаворыцца. Ён прадбачыць, што гэты нэўтральны пояс мусіў-бы абняць Заходнюю і Ўсходнюю Нямеччыну, далей Польшчу, Чэхаславаччыну, Вугоршчыну й Аўстрыю, якая ўжо сяньня знаходзіцца на палажэньні нэўтральнае дзяржавы. У выпадку рэалізацыі гэтага праекту зь пералічаных вышэй сатэлітаў мусілі-б быць выведзеныя савецкія войскі, а з Заходняй Нямеччыны войскі амэрыканскія былі-б перакінутыя ў Францыю, Бэльгію й Галяндыю. Аднаўляючы сяньня гэты праект, заходнія палітыкі ўважаюць, што ў выпадку ягонай рэалізацыі ўспомненыя сатэліты практычна атрымалі-б поўную незалежнасьць і Савецкі Саюз выйшаў-бы зь няпрыемнай для яго сяньня гісторыі з гонарам, атрымаўшы ў дабавак заплату ў форме нэўтралізацыі Заходняй Нямеччыны.

Аднак якраз з тэй прычыны, што Савецкі Саюз быў-бы змушаны страціць пералічаныя сатэлітныя краіны, ён на гэты праект усё-ж ня згодзіцца. Ды і Амэрыка ня выказвае намеру выводзіць сваіх войскаў з Заходняй Нямеччыны і страціць яе для Атлянтычнай абароннай сыстэмы. Гэткай-жа думкі і ўрад канцлера Адэнаўэра.

На стварэньне нэўтральнага пояса Саветы згадзіліся-б толькі пад тэй умовай, калі-б Амэрыка забрала свае войскі з цэлае Заходняе Эўропы, зьліквідавала ў ёй свае вайсковыя базы і быў-бы разьвязаны Атлянтычны пакт. Але такі крок стаўся-б для Захаду яўным самагубствам.

Апрача гэтага, заходнія дзяржавы, а ў тым ліку й Амэрыка маюць надзею, што й бязь іхнага ўмяшаньня ў Саветах можа прыйсьці да нутранага перавароту або прынамся да такіх зьменаў, што савецкая сыстэма перастане быць грознай. Гэтыя пабожныя зычэньні заходніх дзейнікаў хаваюць у сабе вялікую небясьпеку. Да нутранага перавароту ў Савецкім Саюзе прыйсьці можа. Прыкладам, зусім магчыма, што цяперашняе «калектыўнае кіраўніцтва» Хрушчова-Булганіна зь іхняй адсталінізацыяй і курсам палітычнае адлігі будзе змушанае ўступіць месца ваеннай групе на чале з Жукавам. Такую зьмену роляў Захад, пэўне-ж, прывітаў-бы. як найлепшы выхад з сытуацыі і ўважаў-бы, што загроза небясьпекі з Усходу прамінула. Але фактычна гэтая загроза магла-б толькі адсунуцца на недалёкую будучыню, калі выступіла-б з падвоенай сілай. Нельга забывацца, што савецкія вайсковыя колы зьяўляюцца ня меншымі носьбітамі расейскага імпэрыялізму, чымся ім быў Сталін.

Гэтак Захад, у ваблічны глыбокага крызісу савецкае сыстэмы й камуністычнае ідэялёгіі захоўвае поўную бязьдзейнасьць, не стварыў трывалай і на далёкую будучыню аблічанай палітычнай лініі, а жыве адно толькі надзеяй, што справы самі сабой пакоцяцца ў пажаданым для яго кірунку. А ў дачыненьні да што раз новых савецкіх злачынстваў, пры помачы якіх намагаюцца Саветы ратаваць сваё палажэньне, тарнуе толькі маральную прэсію, каб успакоіць усхваляваную публічную апінію і апраўдаць сябе перад сьветам і гісторыяй. Разумеючы ўсю небясьпеку такой палітыкі, ведамы амэрыканскі публіцысты Д. Ляврэнс нядаўна пісаў, што калі маральны ціск на Маскву нічога не паможа і Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў не пакажа клыкоў, дык выбух трэйцяй сьветавай вайны станецца няўхільным на працягу некалькіх найбліжэйшых год.

З гэтымі вывадамі амэрыканскага публіцыстага нельга не згадзіцца, дадаўшы, што выбух трэйцяй сьветавай вайны можа быць справай ня толькі некалькіх найбліжэйшых год, але зусім хуткага часу. На пачатку гэтага артыкулу мы адцемілі, што Савецкі Саюз стаіць сяньня перад дылемай: або пайсьці на вялікія ўступкі патрабаваньням паняволеных народаў і тым самым зьліквідаваць сваю сыстэму. або сілаю здушыць вызвольныя рухі паняволеных народаў і вярнуцца да сталінскага курсу.

Абедзьве альтэрнатывы, на нашую думку. маюць вартасьць толькі тэарэтычную. Ніводная ў сьвеце дыктатура на самаліквідацыю яшчэ не пайшла. Ня пойдзе на такую самаліквідацыю й дыктатура бальшавіцкая. Паварот да сталінізму пры сяньняшнім палажэньні выдаецца мала праўдападобны. Савецкая сыстэма на столькі ўжо пахіснулася, а вызвольныя імкненьні паняволеных народаў набралі такой сілы, што ніякі нутраны тэрор ня зможа спыніць фэрмэнту сярод народных масаў за зялезнай заслонай. Таму ня выключаная сяньня й трэйцяя альтэрнатыва, якую мы адлажылі на канец артыкулу.

Крэмлёўскія дыктатары, каб ратаваць збанкрутаваную сыстэму й саміх сябе, мугуць якраз наважыцца распаліць трэйцюю сьветавую вайну. Прыказка гаворыць, што той, хто топіцца, хапаецца й за брытву, як за дошку ратунку. Адсутнасьць station... 

Гэтыя нашыя вывады з заіснаваўшай сытуацыі вельмі сьмелыя, але не пазбаўленыя лёгікі й не адзінокія, як сьветчыць вышэйшае разважаньне Д. Ляврэнса. Такім чынам распачынаем 1957 год у ваблічны вялікага невядомага.

**Язэп Каранеўскі**

# Штучны людзкі выбар

**АД РЭДАКЦЫІ:** У амэрыканскім месячніку «Амэрыканскі часапіс псыхіятрыі» (American Journal of Psychiatry), у нумары з кастрычніка 1956 г. (т. 113 № 4), надрукаваны артыкул І. М. Радзінскага пад назовам «Фрэнофагія: спосаб штучнага людзкага выбару». Дзеля таго, што гэты артыкул асабліва цікавы беларускаму чытачу, як і іншым чытачом з Усходняе Эўропы, мы яго, з дазволу аўтара, перадрукоўваем зь невялікімі скарачэньнямі ў перакладзе з ангельскае мовы.

*

Рэдка калі быў ужыты штучны выбар у чалавека. Адзіным клясычным прыкладам ёсьць старавечная Спарта, дзе забівалі дзяцей, з каторых не спадзяваліся, што яны будуць добрыя ваякі. Цікава зацеміць, што калі Спарта дасягнула ідэал дасканальнага мілітарыстычнага гаспадарства, творчая здольнасьць ейная ў філясофіі, літаратуры й мастацтве шчэзла. Гэта сталася ў часе ад 500—400 год да нараджэньня Хрыста, калі суседнія грэцкія месты, асабліва Атэны, дасягнулі найвышэйшую творчую вышыню. У гэтым артыкуле я пакажу ясьней, што запраўдны штучны выбар у вялікім маштабе часу й прасторы ёсьць расейскі экспэрымэнт, ужыты спачатна на сваіх людзях (Маскоўцах), а пасьлей пашыраны на суседнія нацыянальныя групы. У інтарэсах Расейцаў ёсьць — зьнішчыць людзей кажнае нацыянальнасьці, праціўных расейскім геапалітычным мэтам.

Шмат хто зь генэцыстых уважае, што інтэлект і шмат якія адумысловыя здольнасьці ёсьць у васнове ад нараджэньня і адукацыя іх толькі выяўляе й кіруе на адпаведныя, агульна прынятыя дарогі. Дык кажны сацыяльны працэс што ўзрушае ўплыў спадкаемства на духовыя собствы, мусіць цікавіць грамадзтва наагул і асабліва працаўнікоў у галіне псыхалёгіі, псыхіятрыі і сацыяльных навук. Мэтаю гэтага артыкулу ёсьцека перагледзець коратка зьяву штучнага выбару, як яна ёсьць у Расеі і ў народаў, што пад ейным загадам. Хоць гэта стары працэс, адылі, ён мала зьвярнуў увагу Захаду. Магчыма вялізарнай прасторай і часам, ягоным незацемленым развоем, ягонай ізаляцыяй і хаванасьцяй выясьняецца факт, што ён мог дасягнуць цяперашні стан і мала ўзрушыць іншыя часьці сьвету.

Расейскае гаспадарства, урадава ведамае як СССР, пачалося як маленькае ядро Маскоўскага Княства, закладзенага ў 1156 г. У 1236 г. быў мангольскі наход на чале з Бату ханам, унукам Чынгіс хана. Уся тагачасная Расея сталася васалам мангольскіх валадароў. Пасьля заваяваньня ханы далі князём трохі мясцовае аўтаноміі, але вымагалі супоўнай паслухмянасьці і акуратнай платы дані. Калі князь васал прыяжджаў да свайго мангольскага пана, ён мусіў датыкацца тварам зямлі. Каб падчыркнуць дачыненьне пана да нявольніка, хан ставіў нагу на шыю васала. Ці зьвернецца васал дамоў, залежала ад таго, як верна ён спаўняў ханскія загады. Коратка кажучы, нявольніцкая паслушнасьць была ўмоваю захаваньня жыцьця за мангольскай акупацыі; гэтая акупацыя трывала блізу 250 год або час дзесяцёх пакаленьняў. У гэтай пары Расейцы не дазналі славы й гуманізуючага ўплыву веку рыцарства.

Маскоўскія князі навучыліся, што нявольніцкая паслушнасьць ханам можа быць карыснай. Іван I (1328—1340), ведамы як Каліта або грашовы капшук, стаўся ўрадовым зьбіральнікам дані хану. Ягонага сына Сымона (1340—1353) хан прызнаў за вялікага расейскага князя. Калі мангольскае ярмо было наапошку ськінена Іванам III (1480), ён сам стаўся царом дэспатам. За ягонага панаваньня паўстала ў Расеі легэнда, што Масква станецца галоўным местам сьвету — трэйцім Рымам.

Мангольская няволя была эфэктыўнай школаю ўсходніх звычаяў, каторыя ўлучалі ў сябе грэблівасьць да людзкага значэньня й вартасьці і гатовасьць разьвязваць сацыяльныя й палітычныя праблемы высыланьнем людзей і масавымі забойствамі. Тыя, што супраціўляліся мангольскім заваявальнікам, загінулі. Засталыя, што пераж ылі, лучылі ў сабе бязуважнасьць да сваіх і рабскасьць да паноў. Мангольская няволя была першай ступеняй заніку незалежнага духа і ідэялёгіі супраціўленьня ў Расеі.

Другую ступень вельмі пашырыў Іван IV Люты (1530—1584). Страціўшы абое бацькоў у дзяцінных гадох, Іван Люты пражыў першыя гады за ўрадаваньня расейскіх баяраў, галоўным зь іх быў Андрэй Шуйскі. Іван IV, за надта разьвітае дзіцё на свае гады, назіраючы інтрыгі ў царскім двары, вельмі зьненавідзеў Шуйскага і баяраў наагул. Калі яму было трынаццаць год, і ён пераняў уладу, дык першым ягоным учынкам было, што ён загадаў кінуць Шуйскага сабакам. Іван Люты быў пераканаўшыся, што ёсьць толькі дзьве вартасьці — Бог на небе і ён — цар — правая рука Божая на зямлі. Ён кансэквэнтна пастураў паводля гэтае аксіёмы. Каб забясьпечыць спаўненьне свае волі, ён арганізаваў моцную сілу з адданых сабе людзей, узброіў іх і назваў апрычнінаю. Апрычніна была тое самае, што пасьлей «охрана» і НКВД у камуністычнай Расеі. З помачай апрычніны Іван запраўды вынішчыў люднасьць колькі местаў, паміж іх Ноўгарад, старое й багатае места з гордай традыцыяй незалежнасьці. У Маскве Іван праводзіў чыстку мэтадычна за «зраду» паміж важнейшых баяраў. Калі ён засуджваў на сьмерць галаву сям'і, дык вымагаў зьнішчэньня ўсіх ейных патомкаў, навет маленькіх дзяцей, каб вырваць «зраднае карэньне». Ведама, дакладнага ліку ягоных ахвяраў ня ведаюць. Уважаюць, што ў Ноўгарадзе было забіта ад 30—60 тысячаў чалавек. Пад канец свайго жыцьця Іван зрабіў сьпісаньне важнейшых ахвяраў караў за ягонае ўлады і казаў маліцца за іхныя душы. Гэтае сьпісаньне мела болей як тры тысячы нумароў.

За панаваньня Івана Лютага сталася вельмі важнае здарэньне дзеля будучыні Расеі і ейнага няміласэрнага экспэрымэнту. У 1581 г. адкрылі Сібір. Здабыў яго казак Ярмак і падараваў цару. Гэтая вялізарная, сьцюдзёная і блізу што пустая зямля надта добра гадзілася як месца, куды можна было ссылаць паўстанцаў, непаслушных або накш непаддаўкіх людзей. Кажны падазроны мог быць высланы да гэтае пустыні на тысячы міляў ад дому й трыманы там як хаця доўга. Дзеля вялізарных воддаляў, бязь людзкіх сялібаў, і сьцюдзёных зімаў, уцячы стуль было траха немагчыма.

Кажнае пакаленьне Расейцаў у працягу бадай як тры стагодзьдзі, было сьветкаю доўгіх сьцягоў палітычных высяленьняў праціўнікаў ладу й загадаў улады, рэвалюцыянэраў, пісьменьнікаў, студэнтаў, патрыётаў заваяваных краёў, людзей інтэлігентных і культурных — у дарозе на ўсход да Сібіру. Падарожжа пехатой трывала колькі месяцаў. Некаторыя не даходзілі, іншыя гінулі на выгнаньні. Рэдка хто зьвярнуўся здольны да дальшага жыцьця або да закладаньня сям'і.

Нішчэньне праціўнікаў праводзіў із новаю сілаю Пётра I (1672—1725). Ён уважаў сябе за лёгічнага наступніка Івана Лютага і яго Ленін ізноў уважаў за свайго ідэялягічнага папярэдніка. Пётра I ліквідаваў старую вайсковую арганізацыю стральцоў (1698) простым спосабам кары сьмерці колькім тысячам. Кажуць, што цар адсек першых 5—20 галоваў сэм, каб заахвоціць сваіх ахвіцэраў. Целы віселі 5 месяцаў на валах Крамля, выстаўленыя на паказ жыхаром места, каб бачылі й баяліся.

Меней жудасным, але аднолькава эфэктыўным было скасаваньне аўтаноміі ўкраінскіх казакоў, здаўна ведамых із свайго свабоднага духа. Прычынаю кары была «зрада» некаторых у часе вайны із Швэдамі. Спачатку ўкраінскія ахвіцэры былі заступленыя расейскімі. Пасьля Пётра I загадаў, каб іхныя палкі былі раськівеныя па розных мясцох імпэрыі, каб рабілі як нявольнікі на розных ягоных праектах. 24 тысячы былі пасланыя капаць канал Ладогу, 38 тысячаў выслалі да Пэрсіі, а 60 тысячаў мусіла працаваць на ўмацаваньнях ля Азоўскага мора. Мноства з гэтых выгнаных зьгінула ад хваробаў, голаду ды няпрыязнага клімату, мала зь іх пабачыла яшчэ раз родную зямлю.

У дзевятнаццатым стагодзьдзі, пасьля падзелу Рэчыпаспалітай, працэс вырываньня праціўнікаў пашырыўся на Польшчу, Балцкія краі (у тым ліку на Беларусь — перакладніца) і Ўкраіну. Адзін прыклад пакажа грунтоўнасьць гэтага выбару, як яго рабілі ў Літве за панаваньня Мікалая I; загад на высяленьне выдаў Блудаў, міністар нутраных справаў у сувязі з папярэднім загадам выслаць 5 тысяч сем'яў польскае шляхты на Каўказ (6 красавіка 1832 г.).

«У кастрычніку 1831 году вышаў найвышэйшы загад пра перавязеньне 5 ты-

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

**Зьмітрок Бядуля** 4)

# Салавей

### АПОВЕСЬЦЬ

#### Частка першая

Певень мае чым ганарыцца: пер'і адліваюцца ў розныя колеры — на крыльлях агняцьветныя кружалкі, на шыі й грудзях мігаціцца цёмнасіні панцыр, сталёвая дзюба моцная, як дзіда, ногі апранутыя ў залатыя нагавіцы, хвост — вязка брыльлянцістых абручоў.

Курыца апранута па-простаму, па-хатняму — у пярэстую цнатлівую спадніцу ў белых гарошках.

— Кт-кт-кт-кт!! — чуваць грозныя ноткі гаспадара-пеўня.

— Кдах-кдах-кдах-кдах! — апраўдваецца курыца.

Пачынаецца інтымная гутарка-бяседа сьвяточнай парачкі. Гутарка льлецца на розныя лады і галасы. Ад гучнага гоману яна пераходзіць у кволы таемны шэпт.

Пераплятаюцца цьвёрдыя зь мяккімі слоўцамі, гнеўныя з запалоханымі ноткамі зьліваюцца ў вадно.

— Кт-кт-кт...

— Кдах-кдах-кдах...

Курыца садзіцца, млявая, на пульхны сьнег і змаўкае. Певень круціцца вакол яе карагодам, апускае крыльлі, нібы крадучыся, ідзе бліжэй да сваёй гаспадынькі і сыпле ўва ўсе бокі салодкім дробным басавым квахтаньнем...

Раптам вясёлы рогат раздаецца з адчыненых дзьвярэй абедзьвюх хатак, рогат-сьмех кідаецца адзін-на-адзін у шчырай гучнасьці.

Паказваюцца два твары — адзін круглы, поўны, масянжовы, з маленькімі цёмнасінімі зажмуранымі вачыма, зь сьветларусай рэдкай бародкай; — другі абросшы цёмнасівой густой барадой да самых вачэй, якія блішчаць з цыганскай хітрыкай.

Гэта — два суседы, два рыбакі, Міхалка і Мэер.

— Дзень добры!

— Дзень добры!

— Што скажаш, Міхалка, на маю курыцу?

— Што скажаш, Мэер, на майго пеўня?

— Твой певень не на жарт прыстаў да маёй курыцы.

— Чаго добрага, яйкі трэфныя будуць, есьці не захочаш.

— Ну, ну, не жартуй!

Міхалка і Мэер — два рыбакі. Шмат гадоў яны тут жывуць разам. Міхалка ловіць рыбу, частку аддае ў двор, за што пан яго вызваляе ад прыгоннай работы, а частку бярэ ў яго Мэер і прадае ў блізкім мястэчку. З гэтага яны жывуць. Адзінота зьблізіла іх жыцьцё-быцьцё. Яны зьблізіліся да таго, што часам забываюць, хто яны. Але як пачуюць, што між імі няма ніякай розьніцы, што яны толькі «людзі», тады абодвы палохаюцца...

Мэер упадае ў задумёнасьць і пачынае перабіраць пальцамі густую бараду.

Міхалка цярэбіць патыліцу і шчыра непакоіцца.

«Трэба, каб была між намі нейкая розьніца», — думае Мэер.

«Гэта-ж я ледзь не забыў, што я хрысьціянін, а ён Жыд», — думае Міхалка.

Так мільгне ў іх думка ў часе будзённай працы, блісьне на адзін міг і гасьне, як лучына. Час, каб падумаць і падбаць аб гэтым, у іх толькі ў сьвяточныя дні — у суботу й нядзелю. Гэтыя два дні яны прымушаны абодвы сьвяткаваць. У суботу Мэер шабасуе, і Міхалка безь яго, як бяз рукі. У нядзелю Міхалка нядзеліцца, і Мэеру няма чаго рабіць. Вось у гэтыя дні яны і пачынаюць паказваць адзін аднаму, хто чым пахне.

«Трасца Мэеру ў бок! — думае Міхалка. — Ліха яму!!» — і пачынае ў суботу перад самым акном Мэера працаваць сякерай, майстраваць. Ці работа патрэбная, ці не — яму ўсёроўна: трэба толькі рабіць садом, каб паказаць розьніцу між ім і Мэерам, каб апаганіць яму шабас.

Мэер моліцца Богу, адварочваецца да сьцяны, затыкае вушы, каб не атрэфіць свой шабасовы слых стукатам-гуркатам «паганага» Міхалкі і ў душы радуецца той помсьце, якая чакае заўтра суседа...

А Міхалка не адстае — стучыць сякерай і крычыць:

— Мэер! Я буду сякерай біць калоду, а ты пры кажным стуку крыкні «гэ-эх!» Гэта і ў шабас можна!

У нядзелю Мэер зьдзекуецца над Міхалкам. Усю сваю хатнюю працу ён адкладае на гэты дзень. Ля самых дзьвярэй Міхалкі капае нешта лапатай, калкі забівае й гручыць на ўсю ваколіцу.

— Міхалка! Кажы «гэ-эх!» — крычыць Мэер і сьмяецца, чуючы зласьлівыя лаянкі Міхалкі, які ляжыць на печы і «папанску» ўпіраецца босымі нагамі ў закураную бэльку.

Гэтак ідзе ў іх час ужо шмат гадоў.

Калі іхнія дзеці, гуляючы разам, зусім аб «розьніцы» забываюць, дык бацькі самі сваімі пастаяннымі сьвяточнымі жартамі напамінаюць і ім аб гэтым. Гулянкі й забавы канчаюцца часта нязвычайна сумна.

Мэндэлька, старэйшы хлопчык Мэера, з плачам бяжыць да бацькі і скардзіцца:

— Тата! Юрка даў мне трэфнай лыжкай па носе...

А Юрка, Міхалкаў сынок, таксама адплату мае за гэта. І ён плача перад сваім бацькам:

— Татачка! Мэндаль мазануў мне цыцалямі па губах...

Бацькі заводзяць аб гэтым сур'ёзную гутарку, касурацца пяць хвілін адзін на аднаго. Але гэта злосьць — штучная, робленая.

Кажны зь іх рад у душы, што і дзеці «розьніцу» адчуваюць

«Так і павінна быць!» — думае кажны.

Кажны зь іх уяўляе, што каб было іначай, каб ня было «розьніцы», дык мо' сьвет перавярнуўся-б...

Певень і курыца лагодна спацыруюць каля хат, капаюцца ў сьнезе, ціха балбочуць між сабою на незразумелай мове. Суседзі, Мэер і Міхалка, таксама гутараць. Раптам яны пачынаюць прыслухоўвацца, наставіўшы вушы ў бок лесу, куды вядзе сьцежка да маёнтку пана Вашамірскага.

— Мне здаецца, што конскі тупат чуваць, — кажа Міхалка.

— І мне здаецца, — згаджаецца Мэер.

Абодвы яны навастрылі слых. У гэта глухое месца рэдка хто паказваўся.

Вось зь лесу замігала нешта чорнае. Чалавек верхам на кані з кажнай хвілінай усё больш вырастаў. Ён ехаў па полі якраз сюды, да гэтых хатак. За ім гналася трое паляўнічых сабак.

— Дваровы! — казаў Міхалка.

— А як-жа! Відаць, ад пана нехта, — зьдзівіўся Мэер.

Сабакі пусьціліся наперад і з гучным брэхам накінуліся на пеўня і курыцу. Тыя ледзь выраталіся ад іх, ускочыўшы на плот, а адтуль — на нізкі дах Міхалкавай хаты.

Чалавек на кані засопся ад хуткай язды, расчырванеўся і ледзь спыніў разгарачанага каня.

Міхалка і Мэер пакланіліся панскаму ганцу.

— З чым Бог нясе? — запытаўся Міхалка.

— Пан загадаў на гэты тыдзень усю рыбу прынесьці ў двор! — казаў панскі ганец.

# Штучны людзкі выбар

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

сячаў сем'яў польскае шляхты з Падольля. Камітэт у справе злучэньня з Расеяй правінцыяў, здабытых ад Польшчы, выдаў загад пацьверджаны яго Вялікасьцю, што ўсе тыя маюць быць вывезеныя, каторыя гэтага зычаць, і, апрача таго, яшчэ тыя, што, прымаўшы ўдзел у паўстаньні, зьвярнуліся ў вызначаны час пакаяцца; таксама тыя, што атрымалі ласку й выбачэньне ад яго Вялікасьці, і тыя людзі, спосаб жыцьця якіх на пагляд мясцовых урадаў не апраўдвае даверу ўлады. Спосаб, як выпаўніць гэты загад, стаўся із згодаю яго Вялікасьці. Яго Вялікасьць уважаў за патрэбнае дадаць сваёй собскай рукою: „Гэты загад мае служыць ня толькі для Падольля, але таксама для іншых заходніх губэрняў — Віленскай, Горадзенскай, Віцебскай, Магілёўскай, Беластоцкай і Менскай (у гэтых шасьцёх губэрнях былі вывезеныя Беларусы — Рэд.), Валынскай і Кіеўскай, у каторых разам было 45 тысячаў сем'яў"».

Цар яшчэ загадаў, каб 1) людзі, маючыя быць вывезеныя, ня былі папераджаныя. У ніякім выпадку ўлада не адказвае за даўгі вывезеных; 2) мужчыны, здольныя да работы, будуць вывезеныя першыя, іхныя сем'і будуць высланыя пасьлей; 3) тыя, што ня маюць зямлі, ня маюць пэўнага прыбытку або занятку, будуць вывезеныя на Каўказ і будуць залічаныя да казакоў. У будучыні яны будуць у казацкіх аддзелах.

Князь Пётра Крапоткін (1842—1921), ведамы геаграф і быстры назіральнік, шмат езьдзіў па цэнтральным і ўсходнім Сібіры ў урадавых справах. Ён пакінуў гэткую зацемку пра групу польскіх выселенцаў, каторых ён там спаткаў:

«Адзінаццаць тысячаў Палякаў, мужчынаў, жанчынаў і дзяцей, было ў Сібіры; там былі студэнты, мастакі, былыя ахвіцэры, паны і дазнаныя майстры з разьвітых рамёслаў Варшавы й іншых местаў. Яны цяжка працавалі ў лесе, у капальнях зялеза й солі. Пасьлей я бачыў некаторых зь іх у будах на Лене, як стаялі напоў голыя ля вялікіх катлоў, поўных сольнае вады, і мяшалі густую кашу даўгімі лапатамі ў пекляной гарачыні. Дзьверы будынку былі шырака рашчыненыя для лядовага паветра. Па двух гадох такое працы гэтыя мучанікі напэўна памерлі ад сухотаў».

Апрача ахвяраў, высланых да далёкіх краёў імпэрыі, іншыя мучыліся ў турмах Эўрапэйскае Расеі месяцамі й гадамі да «суду».

Іншым непажаданым месцам была армія, дзе да 1873 г. 25-цігодняя вайсковая служба раўнялася жыцьцю. Усе гэтыя меры былі ўжытыя дзеля таго, каб аслабіць духовыя сілы свабоды і ўзмоцніць падданства. Няма дзіва, што расейскі фізіёлёг Паўлаў дадаў для клясыфікацыі рэфлексаў два новыя, наймя рэфлекс свабоды і рэфлекс нявольніцтва. Ён гэтак азначае рэфлекс нявольніцтва:

«Разам з рэфлексам свабоды ёсьць таксама ад нараджэньня рэфлекс нявольніцкага падданьня. Ведамы факт, што шчаняты й малыя сабакі кладуцца на хрыбет перад большымі сабакамі. Гэта падданьне зычэньню моцных, падобнае да людзкога кляканьня або датыканьня тварам зямлі — рэфлекс нявольніцтва... Як часта паказваецца гэты рэфлекс у Расеі і як карысна дазнаць яго!»

Ведамыя Расейцы выказвалі падобнае перакананьне. Мікалай I у гутарцы з францускім госьцем Кістынам сказаў: «Дэспатызм істота мае ўлады, але гэта ў гармоніі зь геніем майго народу». Царскія міністры горда звалі сябе ягонымі нявольнікамі. Паэта Лермантаў выказаў тое самае перакананьне ў вершы: «Хай я буду нявольнік, але ў няволі пана сьвету».

У працягу гісторыі Расея мела колькі магчымасьцяў лібэралізаваць сваю ўладу, але нейкім спосабам папсавала іх. Гэтак было ў часе неспакояў (1605-1613), калі баяры адкінулі польскае пасуленьне канстытуцыйнае манархіі (узапраўды гэта было беларускае пасуленьне — Рэд.) У часе «ўлады спадніцы» (1725-1796) бунты ў палацы не падкапалі спаважна стаўпа арыстакрацыі. Аляксандар I, што любіў у сталіцах Эўропы паказацца як змагар за лібэралізм, ня толькі ня лібэралізаваў Расеі, але й зрабіў немагчымую канстытуцыю, каторую маніўся даць Кангрэсовай Польшчы. У Расеі ягоная рада міністраў і сэнат «маючы да некаторай меры тэарэтычныя правы, сталіся ў канцы толькі нявольніцкім інструмэнтам у руках цара і ягоных часовых фаварытаў». Мікалай I, брат Аляксандраў, адкінуў гіпокрызм і паступаў як аўтакрат бяз выняткаў і вымовы. Таксама Аляксандар III. Аляксандар II, што вызваліў сялян ад прыгону, даў ім права голасу толькі ў мясцовых сходах.

Калі падрубы царызму затрэсьліся ў 1905 годзе, Мікалай II стварыў думу, падобную да парлямантаў у Эўропе,, але неўзабаве таксама гэтая інстытуцыя сталася пакорным снадзівам царскіх фаварытаў. Рэвалюцыя 1917 году прынесла сабой дзіўны эпізод дэмакратычнае ўлады, каторы, адылі, неўзабаве быў здушаны бальшавіцкай контррэвалюцыяй. Белы царызм быў заступлены чырвоным. Гладкія арыстакратычныя дэспоты царскае Расеі ўступілі месца бязьміласэрным аўтакратам «з масаў». У 1930 годзе савецкая ўлада нарысавала да драбязы канстытуцыю, найпраграсыўнейшую ў сьвеце. Калі гэты твор быў разрэклямаваны ў капіталістычным сьвеце, дакумэнт пайшоў у архіў і Расея йшла далей па дарозе тыраніі, болей за царскую працінаючай.

Расейцы ня толькі сыстэматычна адкідалі магчымасьць дэмакратызаваць свае канстытуцыі, але яны з пагардаю ставіліся да слабых і лібэральных валадароў і часта іх забівалі (Пётра III, Паўла I, Мікалай II). З другога боку, яны дазвалялі сваім дужым і бязьміласэрным дэспотам паміраць, на колькі ведама, прыроднай сьмерцяй (Іван IV, Пётра I, Кацярына II, Мікалай I, Ленін, Сталін). Калі працэс ліквідаваньня людзей із свабодным рэфлексам за царскіх часоў часта хістаўся, дык па бальшавіцкай рэвалюцыі ён ішоў із ламаючай сілаю паравога вала.

Плян-дзіўства, прыдуманы бальшавіцкай герархіяй, меў зьліквідаваць наступных: 1. арыстакратаў і землясобсьнікаў, 2. гандляроў, 3. індустрыялістых, 4. духоўных, 5. некамуністычную інтэлігенцыю. Можна дадаць да гэтага ўсе камуністычныя групы, каторых пагляды розьняцца ад пагляданў камуністычнай герархіі. Коратка кажучы, увесь верх расейскай сацыяльнай піраміды меў быць зьнішчаны (ня толькі расейскай, але яшчэ болей нерасейскіх народаў, паняволеных Расейцамі — Рэд.).

Тыя зь першых трох групаў, што ня былі забітыя ў часе рэвалюцыі, уцяклі масамі да Заходняе Эўропы, Кітаю й іншых краёў.

Калі Расейцы здабылі ўкраінскія землі Польшчы, яны зрабілі кароткі працэс із грэка-каталіцкай царквою, што мела блізу 4 мільёны сяброў; 4 біскупы й чацьвёртая часьць сьвятароў былі арыштаваныя й высланыя. Астачы-ж, што паддалася, дазволілі паслаць да Сталіна заяву, што яны хочуць вярнуцца на ўлоньне «сьвятое расейскае праваслаўнае царквы нашых прашчураў».

Расейскія сьвятары прымалі ланцугі сваіх камуністычных паноў з тым самым гэніяльным прытарнаваньнем, зь якім яны даўней падпарадкоўваліся царом. У 1930 годзе мітрапаліт Сяргей, рэпрэзэнтуючы маскоўскую царкву, заявіў прэсе, што ў Расеі ніколі ня было рэлігійнага перасьледваньня і што казкі пра ўціскі й зьдзекі ёсьць «чыстая выдумка й мана».

Непажаданыя людзі зь іншых клясаў, асабліва заможныя сяляне, былі або сыстэматычна мучаныя голадам, бо забралі ў іх запасы еміны, або вывезеныя няшчысьлёнымі масамі да Сібіру. Ліквідацыя заможых сялян як клясы дайшла верху ў 1932-1933 гадох, калі мільёны памерлі з голаду, прычыненага ўладаю.

Як вынік масавых выгнаньняў да Сібіру, за камуністычнага рэжыму вырасла ў Азіяцкай Расеі вялізарная нявольніцкая кляса, увесь час папаўняная, лічачыся на сьціплую ацэну болей як 5 мільёнаў чалавек. У 1940 г. толькі з усходняй Польшчы (пад «усходняй Польшчаю» відавочна аўтар разумее Беларусь — Рэд.) звыш аднаго мільёну людзей было раськінена па розных мясцох СССР, ад расейскае арктыкі да берагоў Ціхага акіяну. Каб прысьпяшыць разьвязаньне народных і сямейных сувязяў, бацькі былі адлучаныя ад матак і дзяцей, каб у бальшыні ніколі ня злучыцца.

Аднойчы я дыскутаваў на гэтую тэму зь інтэлігентным расейскім работнікам, што жыве ў Задзіночаных Штатах ад Першае Сьветавае вайны. Ягоныя адказы на мае пытаньні былі цікавыя з гледзішча на духовы характар Расейца, нат па даўгой стычнасьці з амэрыканскім спосабам жыцьця. На пытаньне, чаму расейскія ўрады вырвалі з карэньнем так шмат людзей зь іхных дамоў, ягоны адказ быў, што Сібір багаты край зь вялізарнымі магчымасьцямі. На пытаньне, чаму яны разьбіваюць сем'і, ён адказаў, што ў вадных хвабрыках патрэбныя мужчыны, а ў другіх — жанчыны.

Спосаб перавозу на выгнаньне быў асабліва нялюдзкі. Людзі былі напіханыя ў таварныя вагоны з малой печкай і дзірой, выразанай у памосьце. У такіх замкнёных вагонах ахвяры заставаліся 2-4 тыдні без дазволу выйсьці на плятформу станцыі, каб папрастаць рукі й ногі. Тысячы людзей, асабліва навародкаў і малых дзяцей памерла, пакуль заехалі на месца, зь нястачы яды і ад сьцюжы.

Магчыма найдраматычнейшы довад наўмыснага вынішчэньня высокіх сацыяльных пластоў было забіўства колькіх тысячаў польскіх ахвіцэраў, ваенна-палонных, у Катынскім лесе каля Смаленску (было там нямала і ахвіцэраў Беларусаў, што служылі ў польскім войску). Былі яны забітыя тыпова ўсходнім спосабам, з рукамі, зьвязанымі ззаду, і застрэленыя ззаду ў галаву. У часе знаходу іх было на Захадзе шмат супярэчнасьцяў, хто зрабіў гэты праступак. Сталін сам адказаў тым, што мелі які-колечы сумлеў, калі ён у Ялце 1945 г. паднёс тост за сьмерць 50-ёх тысячаў нямецкіх ахвіцэраў.

Ад 1945 г. Расея пашырыла свой экспэрымэнт штучнага людзкога выбару на колькі краёў у цэнтральнай Эўропе, кажны з даўгой культурнай традыцыяй й вялікага прыносу ў сьвет літаратуры, мастацтва, навукі й сацыяльнага прагрэсу. Немагчыма палічыць, колькі непапраўнае шкоды было зроблена інтэлектуальнай і духовай якасьці гэтых народаў. Калі-б расейская акупацыя заставалася там назаўсёды, можна з пэўнасьцяй прадбачыць, што гэтыя народы будуць усё падабнейшыя да сваіх расейскіх сяброў у няволі.

Немагчыма, ведама, у вадным артыкуле належна апісаць найважнейшыя якасьці хоць-бы аднаго боку гісторыі народу. Спадзяюся, адылі, што было падана досыць адпаведнага матарыялу на выразьлівы кірунак і ўзор у складанай мазаіцы расейскага жыцьця ў працягу стагодзьдзяў. Гэты кірунак можна азначыць як ськіваваны да самадыйнага найвышшага аўтарытэту, што бязьміласэрна прымушае сваіх падданых да пасыўнасьці й згоды. Можна дадаць да гэтага незаспакоенае імкненьне пашырыць сваю ўладу на ўсіх, каго льга дасягнуць. Чым бязьміласэрнейшы дэспот, тым на вышшым п'едэстале ён стаіць у Расейцаў. Два тыпы адзінак маюць шансы пераҗыць у Расеі: адзін бязь міласэрдзя агрэсыўны, другі бясхрыбетна пасыўны. Першага можна прыраўноваць да ваўка, другога — да авечкі. Гэта адносныя й зьменныя якасьці, залежныя ад палажэньня. Ніжшы ўраднік мусіць быць ваўком да сваіх падуладных і авечкай да вышшых, паводля Паўлавага канцэпту рэфлексаў нявольніцтва.

Можна a priori думаць, што собствы, небясьпечныя дэспоту («аўтакрату»), ёсьць у нас вартыя пахвалы. Паміж іх ёсьцека: любоў свабоды, пашана людзкое годнасьці, талеранцыя да паглядаў іншых, пачуцьцё справядлівасьці, права абароны свае індывідуальнасьці і вера ў духовыя собствы, што пераходзяць матарыяльныя межы. Шчасьлівыя канстэляцыі, што вытвараюць гарманійнае злучэньне інтэлекту й пачуцьця, каб зь іх вырасьлі вышменаваныя цноты, рэдка бываюць лёкалізаваныя. Чым яны дасканальнейшыя, тым радзей бываюць і тым болей цэняцца. Дзеля таго, што спадкаемства гуляе галоўную ролю ў пашыраньню духовых здольнасьцяў, выходзе, што вынішчэньне адзінак, маючых гэтыя здольнасьці ў вадным пакаленьні, створыць, што ў наступных пакаленьнях такіх адзінак ня будзе. За царскіх часоў ліквідацыя свабодалюбных адзінак была галоўна сярод мужчын і тады гэнэтычная страта магла быць часткова заступленая жанчынамі вышшае роўні. Абарона жанчынаў і дзяцей была элемэнтарным правілам рыцарскіх мужчын і нат жывёла шануе свае саміцы й дзяцей. Нажаль, камуністычная Расея захацела ня знаць навет гэтага біялягічнага прынцыпу і засуджвае жанчын і дзяцей у нявольніцкія лягеры блізу аднолькава з мужчынамі.

Увесь сьвет узрушаны атомнымі выбухамі і іхным уплывам на зарадковую плязму. У тым самым часе мала кажацца й робіцца супраць уставічнага паніжаньня людзкіх якасьцяў у краёх пад расейскаю ўладаю. Дзеля таго, што роблены там штучны выбар ськіваваны супраць развою добрых духовых якасьцяў, я дазволю сабе ўвесьці новае слова, каторае, я думаю, добра сымбалізуе сваё значэньне. Гэта слова «фрэнофагія» (грэцкае «фрэн» — думка, «фаген» — есьці, жэрці, зн. нішчыць). Фрэнофагія ёсьць болей чымся brainwashing (аслабеньне мазгоў, якое робяць бальшавікі падсудным, мучаючы іх пры допытах — выясьненьне перакладніцы). Яна ўплывае на будучыя пакаленьні тым, што вылучае (выэліміноўвае) ў рэпрадуктыўным пэрыядзе жыцьця адзінкі, маючыя вышшую інтэлігенцыю, людзкія (гуманныя) й духовыя якасьці.

Расейцы, што ськінулі Бога, паставілі новыя цэрквы богу матарыялізму. Высокія духоўнікі ў гэтых сьвятынях ёсьць вучоныя й тэхналёгі, што ў Расеі займаюць становішчы ніжшыя толькі за аракулаў марксістаўскай герархіі. Дзеля таго Расейцы асабліва чулыя на пагляды навукоўцаў, нат тых, што на гэтым баку зялезнае заслоны. Магчыма гэта ключ, што можа адчыніць дарогу да затрыманьня або прынамся да спамаленьня злароднага працэсу фрэнофагіі. Як практычны крок можна пасуліць камісію, складзеную зь ведамых сацыялёгаў, антрапалёгаў, гэнэтыкаў, псыхалёгаў і гісторыкаў. Мэтаю гэтае камісіі было-б дасьледваць хваробны працэс фрэнофагіі, дзе-б яна ня была. Драбязная, дакумэнтаваная справаздача такое камісіі магла-б адчыніць вочы навет самых тых Расейцаў, якія ня зусім апанаваныя шалам зрабіць зь людзей робаты.

**І. М. Радзінскі**

**Пераклала Марыя Станкевічыха**

**Заўвага:** У перакладзе прапушчана літаратура, на якую аўтар паклікаецца.

---

— Ды я і лавіць гэтымі днямі ня думаю, — артачыўся Міхалка.

— Ну, ня хітры, ліха табе! — срога сказаў панскі ганец. — Пан цябе, хамулу, за кудлы павесіць, калі не паслухаеш. У пана вялікі баль на тым тыдні!

— Добра! — хмура сказаў Міхалка.

Мэер палез пальцамі ў бараду, пачаў круціць валасы ў пярсьцёнкі, як-бы забаўляўся імі, захваціў канец іх сабе ў рот і пачаў злосна кусаць, нібы барада ўва ўсім вінавата.

Панскі ганец зноў сьцябануў каня па бакох і панёсься назад у бок лесу. За ім уперагонку пусьціліся сабакі.

З кажнай хвілінай ганец аддаляўся ад хатак, драбнеў на сьнежным полі, пакуль схаваўся ў лесе.

— Згарыць няхай пан з усімі панянятамі! — казаў Міхалка ад усяго сэрца.

— Ліха няхай яго забярэ! — адгукнуўся і Мэер.

Яны абодвы азірнуліся ўва ўсе бакі — можа хто падслухаў іхнія словы...

Сьнежная бель мітусілася ў вачох.

— Цьфу! плюнуў Міхалка.

— Цьфу! — нібы водгалас пачуўся шчыры плявок Мэера.

### VII

Старая пані Вашамірская, маці маладога паніча, ужо некалькі год жыве асобна, у другім маёнтку нябожчыка мужа. Яна вельмі добрая — і ня хоча сыну перашкаджаць. Таксама яна ня хоча, каб сын перашкаджаў і ёй. Яна да таго добрая, што надзівіцца ня можа своёй дабраце й дабрачыннасьці. Шмат з суседніх паняў і паноў ёй аб гэтым гавораць.

Але ці людзі разумеюць яе так, як яна сама сябе разумее? Ці людзі могуць ацаніць усю яе дабрату, яе бязьмерна чулае, кволае сэрца?

Не! Ніхто, толькі яна сама сябе можа ацаніць. Яна і Бог! Для сябе пані жаць ня хоча й ня можа — жыве для іншых. Аднак дзеля таго, што людзі яе не разумеюць і, наогул, людзі —стварэньні грэшныя, не дастойныя яе ўвагі й дабраты, яна ўсе свае клопаты аддае ня ім. Яна вельмі любіць катоў. Калісьці пры мужу, яна любіла сабак. Але людзі памыляюцца — памылілася тады й яна. Цяпер пані выправіла памылку — замяніла сабак на катоў. Бог накіраваў яе на сьвяты шлях.

Котка — прыгожае, лагоднае й далікатнае стварэньне. Котка больш шляхотная за сабаку.

Зь вялікай гарачнасьцю старая пані Вашамірская палюбіла катоў.

Каля сваёй спальні яна мае два пакоі для катоў. У вадным пакоі — здаровыя, у другім хворыя. Пры катох ёсьць лекар, кухарка й некалькі няняк. Кажная котка мае аксамітную падушачку, коўдрачку, пасьцель і наогул поўны гардэроб. Пад наглядам пані варыцца для іх яда. Яна сама назначае дыету для хворых, ведаючы густ і капрызы кажнай паасобку. Сама купае іх, мые дарагім мылам і абрызгвае заграгнічнай парфумай. Сама ўбірае катоў у стужкі, трымае іх на каленях і каля хворых часам сядзіць цэлымі начамі. Пані — срогая й добрая — нікому ня дасьць пакрыўдзіць сваіх котак.

Пані мае затое і вялікую ўцеху.

Каты таксама яе любяць. Сьпяць зь ёю, ходзяць за ёю стадам, лезуць ёй на калені, калі па імені пакліча. Яны не такія няўдзячныя, як людзі. І пані Вашамірская мае ад іх заслужаную духовую ўзнагароду.

Яна любіць катоў ня толькі свайго пэнсіёну. Часам гатова палашчыць і мужыцкага ката. Яна яшчэ больш шкадуе такога: далікатная, шляхотная істота, а ў хамулы-мужыка мышэй ловіць, у няволі знаходзіцца... Пані навет думае забараніць сваім прыгонным трымаць катоў.

Яе захапленьне катамі пераходзіць усялякія межы, ды іначай быць ня можа, іначай пані была-б недастойна іх. Яна да таго глыбока праніккнута кашачай псыхікай, іхнімі пачуцьцямі, што адчувае вялікую натхнёнасьць у часы кашачых канцэртаў на даху вясной. Грубыя людзі не разумеюць харaства іхняга мяўканьня, вушы свае недастойныя затыкаюць. А пані ўсім імпэтам далікатнай чулай душы ўпіваецца ў гэту музыку. Наслухаўшыся да хмельнай асалоды кашачай сымфоніі, пані Вашамірская ўспамінае сваю моладасьць, сваё каханьне... Успаміны паўстаюць перад ёю жывой плоймай рухавых катоў. Аглядае сябе — яна яшчэ цяпер, маючы пяцьдзесят гадоў, досыць цікавая, стройная, вёрткая.

Пані аднаго разу зацікавілася салаўём свайго сына, маладога Адася. Надта ўжо яго хваляць. Ці-ж нейкі салавей сапраўды цікавейшы за катоў?

Адась абяцаўся прывезьці салаўя.

Сягоньня на іх чакае: Адася, Салаўя і ксяндза Марцэвіча, які кажны месяц прыяжджае сюды спавядаць паню.

За месяц у старой пані Вашамірскай набіраецца цэлы жмут грахоў. Кажны месяц пані аддае грахі свае ксяндзу. Яна не задумваецца над тым, куды ён іх дзяе. На тое ён духоўнік. Яна ведае толькі адно — ксёндз дае ёй кажны раз вызваленьне ад грахоў, і душа пані застаецца чыстай, як у младзенца. Пасьля споведзі яна адчувае лёгкасьць бязгрэшнай душы. Каб у яе былі крыльлі, дык як анёл, у неба залунала-б...

Пані прыслухоўваецца да самага ледзь прыкметнага шолаху на дварэ — ці ня едуць?

Яна ўздрыгвае ад кажнага скрыпу дзьвярэй, ад кажнага тупату на дзядзінцы. Нарэшце пачула суматоху. Прыбегла пакаёўка й паведаміла, што малады паніч прыехаў з ксяндзом ды яшчэ зь некім.

Выскачыўшы з панінага пакою, пакаёўка стукнулася лоб у лоб зь лёкаем, які таксама сьпяшыў паведаміць паню аб прыезьдзе гасьцей.

Абодвы захіхікалі і зараз-жа змоўклі, пабаяліся, каб пані не пачула. Лёкай ушчыпнуў моцна пакаёўку за руку вышэй локця, ад чаго яна вельмі сьмешна зморшчыла твар і хацела крыкнуць. Ён срога кінуў вокам у бок паніных дзьвярэй і паказаў сабе пальцам на лоб. Гэта значыла: «ціха, бо вар'ятка-пані пачуе».

Ува ўсёй чэлядзі быў умоўны знак — пакруціць пальцам над сваім лобам абаранак у паветры, калі хто хацеў казаць пра вар'ятку-паню.

Гасьцей, сына і ксяндза прыняла ў кашачым — самым ганаровым пакоі. Салавей застаўся ў пярэдняй.

Паветра ў пакоі для катоў было затхлае, зьмяшанае з дарагой пахучай парфумай. Пан Вашамірскі і ксёндз Марцэвіч ледзь прыкметна моршчыліся і чмыхалі насамі, стараючыся пры гэтым не глядзець адзін на аднаго.

Тут адчувалася поўнае панства катоў. На мяккіх дыванох, на шоўкавых і аксамітных рознаколерных падушках каты рознага росту і масьці спацыравалі нячутнымі крокамі, сядзелі й ляжалі ў рознастайных позах. Некаторыя зь іх былі падобны да тыграў, некаторыя выглядалі какетліва, як паненкі. Тут было некалькі пакаленьняў катоў розных парод, рознага заводу.

Ад вечнай панінай няволі каты былі млявыя, гультаяватыя, з заплюшчанымі вачыма. Аднак выраз вачэй у кажнага зь іх быў асаблівы і як-бы асэнсаваны.

— Няма разумнейшых і далікатнейшых стварэньняў на сьвеце! — тлумачыла пані гасьцём.

І ксёндз і сын хвалілі катоў, ад чаго пані ўзрадавалася, і вочы яе блішчэлі ласкаю й гордасьцю. Яна апавядала радаслоўе кажнага ката паасобку. Яна ведала ўсё хітрасплецёнае дрэва іхняй радні, іхняга сваяцтва між сабою. Гэта ўсё было запісана панінай рукой у скураных фаліянтах на добрай францускай паперы...

# У паняволенай Беларусі

## НЯМА НАВЕТ СШЫТКАЎ І ПЁРАЎ

У беларускай савецкай газэтцы «Піонер Беларусі» з 23 лістапада сёлета тлустымі літарамі на першай балонцы ад імя рэдакцыі газэткі было зьмешчана запытаньне пад загалоўкам «Чаму аб нас забыліся?» Вось ягоны даслоўны зьмест:

✫

За апошні час у рэдакцыю нашай газэты паступіла многа пісем ад школьнікаў рэспублікі із скаргай на тое, што няма дзе купіць падручнікаў, сшыткаў, пёраў, карандашаў і іншых пісьмовых прыладаў.

Вучні 7-е клясы Гарочыцкае сярэдняе школы Васілевіцкага раёну пішуць: «Пачалася ўжо другая чвэрць навучальнага году, а мы ня можам дастаць падручнікаў з альгебры, геамэтрыі, хіміі й вучнёўскіх пёраў. Не адзін раз мы зьвярталіся ня толькі ў сваё Гарочыцкае сельпо, а і ў раённыя кніжныя магазыны Калінкавіч і Даманавіч, але і там не дасталі патрэбных кніг».

«Нам вельмі хочацца добра вучыцца, але перашкаджае тое, што да гэтага часу мы ня можам дастаць падручнікаў з батанікі, геамэтрыі і альгебры», — пішуць вучні 6-е клясы Чарневіцкай сямігадовай школы Юрацішкаўскага раёну Маладэчанскай вобласьці.

«Парайце нам, дзе набыць для сёмае клясы падручнікі з ангельскае мовы і чарчэньня», — просяць вучні Мядзельскае сярэдняе школы.

«Дзе купіць дзёньнікі й сшыткі?» — пытаюцца ў рэдакцыі вучні 7-е клясы Жухавіцкае сярэдняе школы Мірскага раёну Горадзенскае вобласьці.

Вучні 6-е клясы Туркаўскае школы Бабруйскага раёну нідзе ня могуць купіць вучнёўскіх пёраў.

«Ужо амаль закончваецца першы сымэстр навучальнага году, але да гэтага часу шмат якія вучні нашае школы ня могуць набыць падручнікаў з альгебры, фізыкі, расейскае і беларускае літаратураў. Напэўна мала думаюць пра нас у раяна і аблана», — пішуць вучні 8-е клясы Дашкоўскае сярэдняе школы Магілёўскага раёну . . .

**Рэдакцыя газэты «Піонер Беларусі»**

### Радыё-Менск паведамляе:

### Частка прапагандовага апарату

(5. 12. 56) У Беларусі цяпер выдаецца 10 рэспубліканскіх, 7 абласных 175 раённых, 5 гарадзкіх, 13 шматтыражных газэт агульным тыражом больш за адзін мільён 314 тысяч эгзэмпляраў і 14 часапісаў разавым тыражом звыш 313 тысяч эгзэмпляраў.

✫

### Старажы дымавое заслоны

(7. 12. 56) У Менскай вобласьці з дакладамі аб бягучым момантце выступіла 1996 кіруючых працаўнікоў. Імі прачытана звыш **3 тысячы дакладаў,** на якіх прысутнічала каля 245 тысяч чалавек.

У Горадзенскай вобласьці аб бягучым моманце прачытана **1750 дакладаў,** якія слухала звыш 145 тысяч асобаў.

Вялікая колькасьць дакладаў прачытана для насельніцтва іншых вобласьцяў.

✳

### Новы падручнік зь гісторыі беларускае літаратуры

(7. 12. 56) Дзяржаўна-навучальнае пэдагагічнае выдавецтва асьветы БССР выпусьціла дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных установаў нарысы зь гісторыі беларускае літаратуры. У кнізе разглядаюцца важнейшыя творы беларускае літаратуры ад першых помнікаў пісьменнасьці да нашых дзён.

✫

### Яшчэ адна спроба

(7. 12. 56) Зь першага студзеня 1957 году ў саўгасах, на конных заводах, птушкахвабрыках і адкормных пунктах міністэрства саўгасаў СССР, міністэрства прамысловасьці харчовых тавараў СССР і міністэрства прамысловасьці мясных і малочных прадуктаў СССР уводзіцца новая сыстэма платы працы кіруючых працаўнікоў і спэцыялістых.

Да гэтага часу заработная плата дырэктараў і спэцыялістых саўгасаў устаноўлівалася ў залежнасьці ад памераў плошчы й колькасьці жывёлы ў кажнай гаспадарцы. Пры новай сыстэме аплата працы ставіцца ў простую залежнасьць ад абыйма вытворчасьці, а таксама выкананьня пляну й рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі. Пры выкананьні пляну працаўнікі атрымліваюць сваю месячную стаўку поўнасьцяй. **Пры невыкананьні яна будзе адпаведна зьніжана**, а пры перавышэньні пляну — павялічана.

# Да назоваў Белая і Чорная Русь

Тэрмін Белая Русь ня губляе свайго першапачатковага (рэлігійнага) сэнсу ў XIV-XVI стагодзьдзях, ды навет у першай палове XVII стагодзьдзя. Аднак, у залежнасьці ад палітычна-рэлігійных зьменаў, ім цяпер абазначаюцца канкрэтныя тыя ці іншыя землі. Гэтак у польскіх і нямецкіх хроніках XIV-XV стагодзьдзяў Белаю Русьсю пераважна абазначаліся Полацка-Віцебская, а часам Смаленская й Пскоўска-Ноўгарадзкая землі. Магчыма толькі таму, што Палякі й Немцы мелі ў той час найбольшую сувязь з гэтымі землямі. Але тут ня выключаны таксама другі фактар: вытвараныя абставіны на «Русі» пасьля татарскіх заваяваньняў. Фактычна гэтыя заваяваньні спараліжавалі палітычна-царкоўнае жыцьцё ў Маскоўшчыне і тым больш у гістарычнай Русі — Кіеўшчыне, паклаўшы, такім чынам, пятно на чысьціню развою праваслаўя. Вольнымі ў развоі засталіся толькі беларускія землі і іхнія эпархіі. Менш залежнымі ад татарскага прыгнечаньня былі таксама Пскоўска-Ноўгарадзкія землі. Бяручы гэта на ўвагу, можна дапушчаць, што ў тых абставінах назоў Белая Русь прымяняўся да абазначаньня Полацка-Віцебскай, Смаленскай, а часам Пскоўска-Ноўгарадзкай земляў.

XV стагодзьдзе прыносіць вялікія палітычна-рэлігійныя перамены на Ўсходзе. Надыходзіць царкоўная флёрэнтыйская вунія, якая афіцыяльна (не практычна) прыймаецца ў Вялікім Княстве Літоўскім і адкідаецца ў Маскоўшчыне. Цяпер Маскоўшчына ў рэлігійным жыцьці імкнецца пераняць ініцыятыву Канстантынопалю ці ініцыятыву ў вабароне чысьціні праваслаўя — «бе-

(Заканчэньне. Глядзі № 50 [332] «Б-ны»)

лае рускае веры». Надыходзяць таксама й палітычныя зьмены — у канцы стагодзьдзя Маскоўшчына вызваляецца ад татарскага прыгнечаньня. У гэтых зьменах назоў Белая Русь перавандроўвае далей на Ўсход, праўдзівей — узурпоўваецца Маскоўшчынай. Прыкладна на карце ўсходняе Эўропы кардынала Мікалая Кузана, уложанай у 1460 і выданай у 1491 годзе, пад Белай Русьсю ўжо фігуруе Маскоўшчына (Руссія Альба сівэ Московія). Няйначай разумеюць і ў Вялікім Княстве Літоўскім у канцы XV стагодьдзя. Гэтак у пасольстве 1476 г. літоўскага мітрапаліта Місаіла (раней быў Смаленскім уладыкам) і літоўскай праваслаўнай знаці да папы Сікста IV Белай Русьсю азначаліся землі на сумежжы з Маскоўшчынай, пайменна Вяземская зямля. Пералічаючы праваслаўных князёў і паноў з усіх мясцовасьцяў Беларусі і Ўкраіны, якія прыклалі свае подпісы пад актам, у ім зазначалася, што толькі адзін «благоверный князь Дмитр Вяземский сын князя Константинов з Белое Руси». Ня прыпадкова таксама Іван III пачаў сябе тытуляваць гаспадаром Белай Русі, разумеючы пад гэтым назовам Маскоўшчыну. Ён-жа якраз вёў «сьвятую вайну» (1492-1503) зь Літвою, праўдзівей у гэтай вайне прыкрываўся абаронай праваслаўя, загрожанага «нявернай» Літвою. Часткова ён меў рацыю, бо ў гэты час таксама вяліся перамовы між вышэйшым літоўскім праваслаўным духавенствам і Рымам у справе царкоўнае вуніі.

XVI стагодзьдзе кідае Вялікае Княства Літоўскае ў хвалі рэлігійных змаганьняў. Настае рэфармацыя каталіцызму і праваслаўя. У краіне паяўляецца каля 60 розных рэлігійных кірункаў, адгаліненьняў ад дзьвюх традыцыйных і найбольш устойлівых вераў — каталіцызму й праваслаўя. Пры гэтым рэфармацыя патрасае найбольш заходнюю частку Вялікага Княства Літоўскага. Прыкладна ў Наваградзкім ваяводзтве з 600 праваслаўных шляхецкіх родаў пад канец стагодзьдзя засталіся вернымі праваслаўю толькі 16. Наадварот, землі Полацка-Віцебская, Смаленская, Мсьціслаўская і Кіеўская былі амаль незакранутыя гэтай рэфармацыяй. Яны стваралі таксама найбольшы супраціў ідэям Вуніі і самой Берасьцейскай царкоўнай Вуніі 1596 году. Мы маем адзін з вымоўных фактаў гэтага супраціву, як, прыкладам, забойства ў Віцебску вуніяцкага мітрапаліты Юзафата Кунцэвіча. Вось-жа ў гэтым рэлігійным змаганьні пачынае адраджацца ў літоўскіх праваслаўных колах старая ідэя Белае Русі, прававернае «рускае» веры, прыменена́е да ўсходніх земляў Літоўскага княства, найменш закнутыя рэфармацыяй і ідэямі вуніі, тым больш, што і вуніяты называлі сваю веру «рускай» верай. Калі-ж ходзіць пра Маскоўшчыну, дык тут ня было ніякіх патрэбаў выдзяляць «прававерную белую рускую веру» ад «прававерная праваслаўнай рускай веры». Літву-ж яны лічылі цяпер вогнішчам гэрэзіі і адступнікаў.

Характэрным доказам таго, што назоў Белая Русь XVI стагодзьдзя быў чыста рэлігійнага паходжаньня, зьяўляецца самы факт ягонага пашырэньня. Запраўды гэты назоў стаў ужывацца для абазначэньня ўсходніх земляў Беларусі і часткі Кіеўшчыны з другой паловы XVI стагодзьдзя, г. зн. з часу самага разгару рэлігійных змаганьняў. Ён замацаваўся таксама ў актах царкоўнага паходжаньня. Акты адміністратыўна-палітычнага характару Вялікага Княства Літоўскага гэтага назову ня знаюць. Замацаваўся ён таксама ў хроніках, асабліва ў хроніках чужаземнага паходжаньня. Гэтак Кромер у сваей хроніцы Польшчы, выданай у 1578 г., пад Белай Русьсю разумее толькі ўсходнія землі Беларусі, землі, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ. Некаторыя храністыя Белае Русі адносілі яшчэ Кіеўшчыну, але як гэтая зямля адыйшла ў 1569 г. да Польшчы і ўжо выпадала зь геапалітычнага абсягу й кампэтэнцыі Літвы, дык і назоў Белая Русь стаў выцясьняцца новым адміністратыўным назовам Украіна (Окраіна) — перш ускраіна ВКЛ, пасьля Польшчы). У царкоўных актах і літаратуры праваслаўнае Царквы назоў Белая Русь асабліва пашырыўся пасьля Берасьцейскае царкоўнае вуніі 1596 г. Ведама, ён быў і раней, як сьветчаць аб гэтым ранейшыя хронікі, але цяпер ён набывае асаблівае ўвагі, якім падкрэсліваецца незрэфармаваная «руская» вера і яе прыхільнікі. Такое разуменьне відаць асабліва з палемічнае літаратуры Сьцяпана Зызані. Апошні быў вялікім праціўнікам царкоўнае вуніі і вёў вялікую палеміку з вуніятамі. Ён першы акрэсьліў свае творы пісаныя ў «беларус-

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)



**Горадзень. Калоская царква з XII стагодзьдзя**

---

Яна вадзіла гасьцей ад сьцяны да сьцяны, на якіх былі разьвешаны малюнкі катоў у натуральнай вялічыні: работа найлепшых маляроў, якіх яна дзеля гэтага выпісвала з Варшавы, плаціла ім вялікія грошы . . .

Ксёндз Марцэвіч хітра паглядзеў на пана Вашамірскага, той адварочваўся.

Раптам пачулася дзікае і жаласьлівае мяўканьне з суседняга пакою — з «кашачага шпіталю». Пані ўздрыгнула й пабялела, як палатно.

— Пэўна, Атлянтыда каценіцца! — сказала яна не сваім голасам і пусьцілася заклапочаная ў другі пакой.

Пан і ксёндз засталіся адны. Яны адвярнуліся адзін ад аднаго, і кажны зь іх душыўся ад нахлынуўшага з нутры сьмеху.

Да ксяндза падышоў вялізны, белы, як сьнег, кот і давай яму глыбока пазіраць у вочы.

Псяндзу нялоўка зрабілася. У яго зараз-жа адпала ахвота сьмяяцца.

Залаціста-зялёныя вочы ката з вузкімі цёмнымі рыскамі глядзелі на яго задумёна і як-бы пранікаючы наскрозь. Ксяндзу здавалася, што паміж ім і катом ёсьць сакрэт, таямніца, вядомая толькі ім адным. Тая вера ў д'ябла, якая страцілася з сэрца ксяндза, вярнулася назад.

«Хто яго ведае, — падумаў ён, — звычайны кот так разумна не глядзіць. А гэты — нібы ўсе думкі мае знае . . .».

Кот пачаў выгінацца ў дугу, пазяхаць, церціся галавой і хвастом каля ног ксяндза, пакідаючы на чорнай сутане белую поўсьць.

Ксёндз перамог сваё няпрыемнае пачуцьцё, надаў сабе празьмерную храбрасьць, нагнуўся і пстрыкнуў ката пальцам у сьлізкавата-ружовы мяккі нос.

Кот блiснуў вачыма ад неспадзяваньня, ад дзіва і ледзь не чалавечы выраз адлюстраваўся ў яго вачох. Ён грозна натапырыў рэдкія вусы, замурлыкаў і распусьціў свае войстрыя кіпці . . .

Ксёндз крыкнуў. Зь яго падрапанай рукі капала кроў . . .

Спалохаўся спачатку й пан, але потым засьмяяўся, кажучы, што ксёндз гэта шчыра зарабіў.

Ксёндз выцер руку хустачкай і хутка забыў аб ране, бо катом несьлі палудзень, несьлі на тацах у дарагіх пасудзінах.

## VIII

Пасьля таго як накармілі катоў, як Атлянтыда ўдачліва спарадзіла пяць кацянятак, як пані ў старасьвецкім календары знайшла для іх імёны, якія панапісала на шоўкавых істужках і абвязала імі кацянят, пасьля таго, як яна ўпісала ў кнігу новых кацянят з адзначэньнем дня нараджэньня, — гасьцей папрасілі на абед.

— А дзе-ж Салавей? — успомніла пані. У клопатах ледзь не забылася аб ім.

— Трэба яго паклікаць! — сказаў пан, выціраючы губы белай галяндзкай сэрвэткай.

— Так, Салавей, — разважаў ксёндз, паглядаючы ласа на марынаваныя грыбкі, — назвалі чалавека салаўём. Але-ж ён вые, як воўк, брэша пасабачаму, хрукае, як сьвіньня, — чаму-ж салаўём яго назвалі? Чаму, пане Адасе? — зьвярнуўся ён да пана Вашамірскага. — Маглі-б назваць воўкам, сабакам, сьвіньнёй.

— Маглі-б назваць і ксяндзом, бо ён і ваш голас падрабляе! — казаў пан Вашамірскі. — Назвалі салаўём, бо яго амплуа салаўём сьвістаць, бо нам якраз гэта роля патрэбна. А вашай ксяндзоўскай ролі ён не адбярэ . . .

Ксёндз трохі паморшчыўся і, каб лягчэй зглушыць крыўду, зноў пачаў разважаць.

— Такія, як гэты чалавек-салавей, называюцца брухамоўцамі. Гэта чараўнікі, у іх нячыстая сіла сядзіць, аб іх у бібліі гаворана. Яшчэ цар Саул загадаў выразаць усіх чараўнікоў і ведзьмаў у сваёй дзяржаве.

Ксёндз зірнуў у бок пані, якая ціха войкнула і вытарашчыла вочы.

Яна вельмі баялася нячыстай сілы.

— Ды кіньце, ойча, глупства гаварыць! — зазлаваўся пан Вашамірскі.

Але ў гэты час ксёндз Марцэвіч быў захоплены зусім іншай справай. Ён, не зьвярнуўшы ўвагі на словы пана Вашамірскага, спакойна прысунуў да сябе апэтытны ружовы торт, які выглядаў, нібы яснае сонца.

У старой пані заўсёды торт (вельмі мастацкай работы) быў традыцыйнай украсай стала. Яна была вялікім аматарам майстраваць тарты. Адслужыўшы прываблівай дэкарацыяй для шаноўных гасьцей, тарты заўсёды заставаліся цэлымі, нечапанымі. Пасьля пані Вашамірская аддавала іх сваім пястуном — катом.

Ксёндз Марцэвіч гэта ведаў. Але, выпіўшы цяпер лішнюю чарку віна, яго апанавалі спакусы пакаштаваць хоць раз у жыцьці панін торт.

— Зусім магчыма, — казаў ксёндз, — што нячыстая сіла і ў Салаўі сядзіць . . .

Пры гэтым ён адрэзаў ёмкі кавалак торту і пачаў есьці, любуючыся і смакам і выглядам, бо торт у разрэзе адкрываў захаваныя таямніцы рознаколерных слаёў начынкі. Торт меў унутры багаты зьмест, цэлую тройцу райскіх смакаў.

Пані раптам заўважыла празьмернае самачаставаньне, трохі зморшчылася й адсунула ад ксяндза пачаты торт.

У гэты час лёкай прывёў Салаўя. Той нізка пакланіўся, аглядаючы ўсіх сьмелымі, спакойнымі вачыма.

Пані зірнула на яго із страхам, цікавасьцю і павагай.

Словы ксяндза зрабілі на яе ўражаньне.

— Ну, нячыстая сіла, — пажартаваў пан, — сьвісьні салаўём!

Салавей паказаў сваё мастацтва.

Пані слухала спакойна.

Такая незацікаўленасьць роднай маткі да свайго Салаўя пану ня зусім спадабалася.

— А што? — зьвярнуўся ён да маткі.

— Эт, Так і птушка можа, тысячу разоў чула.

— А ну, прадстаўляй ксяндза! — зьвярнуўся пан да салаўя.

У вадну хвіліну Салавей ператварыўся ў ксяндза Марцэвіча: пачаў сыпаць ксяндзоўскай філязофіяй, якой многа наслухаўся ў студыі. Падрабляў яго голас да таго натуральна, ажно ксёндз здэтанаваўся і пакрыўдзіўся . . .

Пан Вашамірскі рагатаў шчыра і гучна, адкінуўшыся галавою на сьпінку крэсла, палажыўшы рукі накрыж на жываце.

Ксёндз апусьціў галаву, а пані была незадаволена, што так выкпіваюць духоўную асобу.

— Так сам ксёндз патрапіць. Тут ніякага дзіва няма! — казала пані няласкавым тонам.

— Але-ж тут ёсьць мастацтва! — гарачыўся пан. — Ёсьць лес, які мы бачым штодня і ня дзівімся яму, а калі гэты самы лес намалюе мастак, дык мы дзівімся малюнку. Малюнак ужо ёсьць мастацтва!

Пан Вашамірскі націскаў на слова мастацтва, нібы гэта мастацтва было абасобленай істотай, якую ён бачыў перад сабою, адчуваў сваімі нэрвамі.

— У Салаўя таксама шмат мастацтва! — кончыў свой доказ пан Вашамірскі і выпраставаўся на сваім крэсьле.

— Не мастацтва, а брухамоўства, — ціхім голасам паправіў пана ксёндз Марцэвіч, блiснуў набожнымі вачыма ў бок пані і зноў прысунуў да сябе пачаты торт, нібы зброю супроць пана.

— Я прызнаю мастацтва толькі ў катоў, — казала пані і пагладзіла пры гэтым двух катоў, якія сядзелі на яе каленях.

— А ну, замяўкай! — зьвярнуўся пан Вашамірскі да Са-

**Ад Рэдакцыі:** Пад такім загалоўкам у «Мюнхнэр Мэркур» (24/25 ліст. гг.) быў зьмешчаны артыкул сп. Бруно Скрэгунэц-Гільлебранд, які з глядзішча на ягоную вартасьць і зьмяшчаем тут у беларускім перакладзе.

# «Вайна з Расейцамі — нямінучая»

**Людовік Кошут ужо ў 1876 г. прадугледжваў паняволеньне Вугоршчыны расейскім імпэрыялізмам**

Прайшло ўжо больш за стагодзьдзе з таго часу, калі выкліканая венскім урадам на дапамогу 200-тысячная расейская армія затапіла ў крыві нацыянальную й сацыяльную рэвалюцыю вугорскага народу, рэвалюцыю, праводыром якое быў Людвік Кошут, і калі збунтаваныя супраць Вены вугорскія аддзелы зложылі зброю. Паўстаньне 1848 г. мела свой эпілёг восеняй 1849 г., калі былі казьненыя 13 вугорскіх генэралаў у Арадзе і граф Бат'яны — у Будапэшце.

Дзіўныя паралелі гісторыі. У гэны час, як і сяньня, сымпатыі паняволенага польскага народу былі поўнасьцяй на баку паўсталых Вугорцаў. Сярод генэралаў, якія камандвалі паўстанцкімі вугорскімі аддзеламі, было таксама двух Палякаў. Ад гэтае рэвалюцыі Людовік Кошут быў разгляданы, як сьмяротны вораг Аўстрыі, ад якое хацеў ён аддзяліць Вугоршчыну, а таксама як сьмяротны вораг дынастыі Габсбургаў, панаваньню якое ў Вугоршчыне ён хацеў пакласьці канец. Гэты пагляд стаўся якраз легендай. На колькі ён хвальшывы, сьветчаць розныя лісты Кошута, які ў 1849 г. уцёк у Турцыю, потым змагаўся за вугорскую справу як эмігрант у Ангельшчыне, пасьля ў Задзіночаных Штатах ды які ў 1894 г. памёр у Турыне, далёка ад свае любае бацькаўшчыны. Загартаваны цяжкімі перажываньнямі, цьвёрдымі ўдарамі лёсу й багатымі дасьветчаньнямі, Кошут на эміграцыі зьмяняе свае пагляды й даходзіць да вывадаў, якія, у бальшыні, ня страцілі сваёй важнасьці й сяньня

### Арол на вогнішчы

Будучы на эміграцыі, Кошут прызнаў перадусім агромную небясьпеку расейскага імпэрыялізму для вольнае Эўропы а перадусім, аднак, для Аўстра-Вугоршчыны й Нямеччыны, якія ляжалі ў сэрцы Эўропы й найбліжэй да Расеі. Ён прыйшоў да выснаву, што расейскі імпэрыялізм будзе заўсёды небясьпекай для вольнае Эўропы, і што гледзячы на рэвалюцыю супраць Вены й Габсбургаў, ён з эміграцыі заўсёды заклікаў сваіх сяброў быць сьведамымі таго, што толькі ў цеснай сувязі з Аўстрыяй і Габсбургамі Вугоршчына зможа захаваць сябе ад упадку перад пагражаючым расейскім імпэрыялізмам.

Гэтыя заклікі й перасьцярогі Кошута, якія пры веданьні ім сьмяротнае небясьпекі для свайго народу, маюць заклінальны й драматычны характар, знаходзяцца ў розных ягоных лістох. 3-га сьнежня 1876 г. Кошут піша зь Італіі да Эрнста Шымоны наступнае: «Усе магчымыя фактары, навет вайну, што лічыцца жудасным няшчасьцем, я лічу за меншае няшчасьце, чымся збольшаньне расейскае сілы... У ясным перакананьні, што ў гэтым пытаньні інтарэсы нашай бацькаўшчыны поўнасьцяй салідарызуюцца зь інтарэсамі аўстрыяцкай дынастыі, я жадаў-бы, каб гэты пагляд быў прыняты адказнымі коламі...»

Працягваючы, Кошут зьвяртаецца супраць тых «Ультра-Мадзяраў», якія спэкулююць на тым, «што калі-б дынастыя Габсбургаў увайшла ў канфлікт з Расейцамі ды ўпала, дык з гэтага ўпадку магла-б паўстаць незалежная Вугоршчына». Кошут адкідае такія пагляды як «дурніцы» і піша: «У выпадку такога ўпадку Вугоршчына была-б тым вогнішчам, на якім быў-бы спалены аўстрыяцкі арол, і напэўна няма на сьвеце такога зварʼяцелага Вугорца, які жадаў-бы глядзець на сваю бацькаўшчыну, як на палаючае вогнішча толькі таму, каб ведаць, што пры гэтым самым згарае й аўстрыяцкі арол. Такой прыемнасьці мы сабе не жадаем! Наагул — зусім не разумна думаць, што поўная незалежнасьць Вугоршчыны можа быць адбудаваная толькі на грузах аўстрыяцкай манархіі. Гэта зусім ня праўда».

Далей Кошут кажа, што расейская дзяржава мусіла-б быць зьменшанай да такога памеру, пры якім яна ня была-б небясьпечнай для свабоды Эўропы. Вынік вайны застаецца заўсёды няведамым, і можна было-б толькі тады ўжыць гэты палітычны сяродак, калі-б для якое-небудзь краіны пагрозьлівая небясьпека была-б яшчэ большым няшчасьцем чымся самая вайна. І дзеля таго, хай вайна супраць Расеі — гэта праўдападобная ўдача, дык гэтая няпэўная ўдача ў каждым выпадку больш мэтазгодная, чымся запэўненая руіна ад расейскага імпэрыялізму. На павадку расейскае палітыкі Аўстрыя мусіла-б загінуць, ня было-б тады больш ніякіх шансаў — толькі пэўная сьмерць».

### Ізноў над Дунаем

Далей у тым-жа лісьце стаіць наступнае: «Ён (Расеец) акупаваў у Азіі, ён акупаваў у Эўропе. Ён быў прагнаны ад Дунаю, цяпер стаіць ён ізноў на берагох Дунаю. Дагэтуль Дунай быў яму перашкодай, бо на ягоным беразе знаходзіўся адважны Турак із сваімі цьвярдынямі; цяпер Баўгар трымае гэты бераг адкрытым для яго, Баўгар, якога дзяржаву ён утварыў, які належыць яму. Заходні бераг Чорнага мора быў для яго дагэтуль зачынены, цяпер ён адкрыты. Дагэтуль Баўгарыя была для яго пабаёвішчам дзе ягоныя аддзелы падалі масамі, як трава на сенажаці пад касой, цяпер Баўгарыя для Расейцаў — гэта надзейная стратэгічная база, гатовая галоўная кватэра. А найважнейшае — гэта тое, што ён стаіць перад Славянамі як правадыр панславізму, як Мэсія славянскае справы, і ад пераможнага німбу ягоных сьцягоў цячэ магнэтызм расейскага ўплыву на ўсе бакі, аж да Прагі... Рыхтуйся да апошняга страшнага бою, дынастыя Аўстрыі! Вайна з Расейцамі — нямінучая!».

Нямінучасьць гэтае вайны паясьняў Кошут у сваім лісьце самой натурай Расеі: «У нязвычайна разьдзьмутых межах расейскае імпэрыі знаходзіцца мешаніна на стольскіх супярэчнасьцяў, што гэтая імпэрыя можа ўтрымацца толькі дэспатызмам. Дэспатызм у сваю чаргу можа трымацца толькі дзяржаўным самахвальствам. Дзеля гэтага праз усю яго гісторыю, як нязьменная думка, працягваецца сталае пашыраньне межаў. І гэта не залежыць ад асобаў. На царскім троне можа сядзець неспакойны фанабэрысты Мікола ці Аляксандар зь лянівым тэмпэрамэнтам — гэта не зьмяняе паложаньня. Пад ціскам свайго паложаньня гэты будзе агрэсыўны гэтаксама як быў гэны. Расейская аўтакрацыя ёсьць адзінай уладай на гэтым сьвеце, у слоўніку якое няма слова «хопіць». Бо яна мусіць або пашырацца або ўпасьці... Не дарма Марыя Тэрэзія пісала царыцы Элізавеце наступныя словы, што пасьля сталіся слаўнымі: «Сяброўкай Вашага Маестэту буду ахвотны, але із сваёй волі — ніколі Вашай суседкай».

Ізноў трэба сказаць: што за паралель да сяньняшніх часоў! Як дзіўна паўтараецца гісторыя! Ці-ж тыя цьверджаньні, у якіх Кошут, як прарок, гаворыць аб расейскай дэспотыі й ейным нутраным прымусе стала пашырацца, каб захавацца ад упадку, не зьяўляюцца поўнасьцяй і зусім праўдзівымі й на сяньня? Калі ён гаворыць, што Мікола гэтаксама як і лянівы Аляксандар мусілі сьхіляцца перад гэтым законам, дык сяньня прыйшла чарга й на Хрушчова, Молатава, Булганіна й Жукава. А бедная Вугоршчына, нешчасьлівы вугорскі народ мусіць сяньня, як і перад больш чымся сотняй гадоў, крывёй сваіх ранаў, нанесеных расейскай зброяй, плаціць рахунак.

Крыху пазьней, 8-га верасьня 1886 г., шле Кошут з Турыну ізноў адзін ліст да Ігнаца Тэльфа, зь якога йзноў-жа відаць, як моцна абыходзіць яму лёс сваёй бацькаўшчыны ў ваблічны пагражаючай небясьпекі расейскага імпэрыялізму. У гэтым лісьце Кошут піша: «Усходняе пытаньне — гэта пытаньне расейскага імпэрыялізму, камбінаванага з панславізмам. Дзеля гэтага ў інтарэсах аўстра-вугорскае манархіі ня толькі пажадана, але навет патрэбна супрацьставіцца расейскаму імпэрыялізму, а загрожаным Расейцамі славянскім народам дапамагчы ўсімі сіламі ў іхным самазахаваньні нацыянальнай індывідуальнасьці. Я казаў перад дзесяцьцю гадамі й паўтараю цяпер, што ўва ўсходнім пытаньні між нашай бацькаўшчынай, Аўстрыяй і пануючай дынастыяй бачу поўную салідарнасьць; небясьпека, што пагражае ўсім тром дасягнула такіх памераў, што салідарнасьць і згоднае супрацоўніцтва ўсіх трох фактараў ёсьць загальнай патрэбнасьцяй, якая выцякае з паложаньня. Мне не падабаецца аўстрыяцкі арол у маёй бацькаўшчыне, аднак, я паўтараю з усёй шчырасьцяй маёй душы ўсё тое, што я ўжо адносна ўсходняга пытаньня казаў дзесяць год таму: хоць я й не хачу бачыць аўстрыяцкага арла ў маёй бацькаўшчыне, але й не хачу, каб ён быў спалены Расейцамі. Мне робіцца страшна на самую думку, што мая бацькаўшчына...

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

# Да назоваў Белая і Чорная Русь

(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)

кай мове» ў вадрозьнені ад «рускай» ці польскай мовы вуніяцкіх актаў і літаратуры.

Наагул-жа тэрмін «рускі», а пасьля і «беларускі» азначалі грамадзян «рускае», прыйшоўшае зь Кіева веры. Нацыянальна нашыя прашчуры зваліся Крывічамі, а пасьля Ліцьвінамі. Гэтак звалі іх і іхнія суседзі. Гэтак сама было зь іхняй «рускай» літаратурнай мовай, якая прыйшла з прыняцьцем хрысьціянства, ці з прыняцьцем «рускае» веры. Характэрнай у гэтых адносінах зьяўляецца абабітая фраза «рускім пісьмом пісаны», якая аналагічная фразе «лацінскім пісьмом пісаны». Ды найлепш паказана такое зразуменьне ў хроніцы Быхаўца таго-ж XVI стагодзьдзя. Гаворачы аб родах літоўскіх князёў, якія яшчэ ня былі хрысьціянамі, храністы зазначае між іншага: «... і Скірмунт начнет княжыці на Новогородке, а Гінвіл на Полоцку, а поймет Гінвіл дочку ў велікого князя Тверского в Борка іменем Марыю, для которыеж охрысьцілся в Рускую віру... А по собі зоставіл сына своего Борыса на Полоцку... **і будучы ему Русіном** был вельмі набожон». У другім месцы ён гаворыць пра чыста рэлігійны сэнс тэрміну «рускі» яшчэ выразьней. Пералічаючы сыноў Кейстута, храністы падкрэсьлівае: «... первы Вітольд а колі Русіном остал, далі былі імя ему Юры і коліся охрэсьціл в Ладцкую віру, тогды імя ему дано Александэр». Няйначай было з тэрмінам «беларускі», які азначаў яшчэ ступень веры. Пасьля гэты тэрмін загубіў сваё першапачатковае значаньне і стаў ужывацца для абазначэньня асобнае народнае адзінкі. Падобная мэтамарфоза тэрміну настала ўжо ў XVII стагодзьдзі.

П. У.

# Трагэдыя й ворагі работніцтва

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

адзін чэсны чалавек, якому справа працоўных ляжыць на сэрцы, можа там заставацца пасьля падзеяў, што адбыліся ўва ўсходнім блёку? Тымчасам гэтыя паразыты, што жывуць за кошт працоўных, на вугорскіх работнікаў накладаюць кляймо «фашыстых, бандытаў, контррэвалюцыянэраў»! Або возьмем ведамага ангельскага «чырвонага дзекана». Ці-ж ня вораг працоўных? Таго, хто падтрымоўвае забойцаў, хаця-б сабе толькі апраўдваючы іхныя чыны, іншымі славамі назваць нельга!

### «Геніі» ў хвасьце

Ёсьць яшчэ адна катэгорыя людзей, якіх ужо ні ў якім выпадку ворагамі працоўных назваць нельга, але якіх, нажаль, нельга залічыць і да прыяцеляў. Ня будзем тут спыняцца на г. зв. «водка-візіторс», якія пасьля звароту з Масквы звычайна расьпісваюцца аб дасягненьнях «сацыялістычнага ладу». Гэта людзі абʼектыўныя: заехаўшы з туга набітымі партфэлямі, ды калі не з дыпляматычнымі паспартамі, дык зь іншымі паўнамоцтвамі, у Маскву, яны-ж ня могуць хлусіць, што ім там горш паводзілася, чымся на Захадзе...

Але як прадстаўляюцца на фоне апошніх падзеяў тыя заходнія, нярэдка вельмі выдатныя, пісьменьнікі, паэты, навукоўцы, што дагэтуль, калі не належалі да камуністычнае партыі, дык прынамсі былі сымпатыкамі камунізму ды даўжэйшы час фліртавалі з Масквой? Трэба было шматлікіх тысячаў ахвяраў у Вугоршчыне, каб ім нарэшце адкрыліся вочы. Трэба было дзецям і жанчынам ісьці супраць танкаў з клічамі «Прэч акупантаў!», каб яны нарэшце зразумелі, што крыецца пад маскай камунізму. І толькі тады частка зь іх здабылася на пратэст.

Зусім натуральна, што выдатны пісьменьнік, філёзаф, ды наагул усе тыя, што запраўды ёсьць ці толькі навет прэтэндуюць на духовых правадыроў і геніяльнасьць, мусяць быць наперадзе, мусяць весьці, інтуіцыйна вычуваючы тое, што мае надыйсьці, не гаворачы ўжо аб правільным разуменьні таго, што ёсьць. «Геніі» аб якіх вышэй была мова, засталіся ў хвасьце. Так, яны вялі, часамі нясьмела, але ўсё-ж у кірунку Масквы. Ды па дарозе вугорскі работнік і селянін, жаўнер і студэнт, дзяўчо й дзіцё адкрылі яму вочы. «Геніі» засароміўся і... запратэставаў... Так і просяцца тут Купалавы словы:

> «Цяпер і вы загаварылі,
> З апекай вышлі, як зь зямлі;
> А што-ж дагэтуль вы рабілі?
> А дзе-ж дагэтуль вы былі?»

Падзеі ў Вугоршчыне паказалі ўсю глыбіню трагэдыі народу акупаванага камуністычнымі імпэрыялістымі ды ў першую чаргу трагэдыю работніцтва. Мы тут спэцыяльна падчыркваем трагэдыю работніцтва, бо якраз усе праступствы камунізму, ад якіх яно церпіць нараўні зь іншымі, робяцца якраз ад імя работніцтва й быццам-бы для ягонага дабра. Жудаснае ў гэтай трагэдыі й тое, што частка, хоць і ня так вялікая, заходніх работнікаў, падтрымоўвае яшчэ катаў сваіх паняволеных братоў.

Аднак войстрая рэакцыя абсалютнае бальшыні заходніх работнікаў на падзеі ў Вугоршчыне паказвае, што яны, ня гледзячы на прапаганду маскоўскіх «апякуноў» ды сваіх зраднікаў, штораз больш пераконваюцца, што працоўнаму чалавеку ня толькі не па дарозе з камунізмам, але што камунізм — самы люты ягоны вораг.

А. Галубіцкі

---

лаўя і бліснуў весела вачыма, нібы знайшоў раптам вялікі скарб.

Сславей пачаў мяўкаць.

Дзікія кашачыя марцаўскія сьпевы ліліся зь яго горла, запоўнілі пакой. Ён на розныя лады перадаў мяўканьне катоў. Мяўкаў нібы не адзін кот, а дзесяць. У гэтых агідных галасох чулася роспач, быццам рэзалі кагосьці па горле тупым шклом ці душылі вяроўкай. У гэтых жудасных хрыпах і стогнах была цяга самца да самкі...

Пан заткнуў вушы.

Уся чэлядзь зьбеглася спалоханая і зьдзіўленая. У пансіёне катоў пачулася занепакаеньне. Каты пачалі драпаць дзьверы.

Старая пані была ў захапленьні. У яе засьвяціліся вочы, як дзьве сьвечкі, паружавеў твар. Яна не адрывала вачэй ад Салаўя, упівалася із смагай у гэты дзікі канцэрт.

Ксёндз Марцэвіч у гэты час зьеў увесь торт. Пані не заўважыла.

— Вось гэта мастацтва! — казала пані горача і шчыра. — Вось гэта я разумею! Адно захапленьне...

— Ага! — крыкнуў пан Вашамірскі голасам пераможцы, — Ага!

## IX

Бразгулькі зьвінелі, адбівалі хвіліны, лічачы іх цененькімі мядзянымі галасамі.

Тройка стаеньнікаў, выпешчаных, круглых, разгарачаных, імчалася ў сьнежную ноч, падобную колерам да сіняватага цукру. Коні, нібы гумалясткавыя, выцягваліся цугам адзін за адным, гнулі паліраваныя шыі ў лебядзіныя кольцы, стрыглі вострымі, як сталёвыя ножніцы, вушамі, нюхалі сьнежнае паветра, храплі гучна, бадзёра, пара белым дымам клубілася зь іхніх ноздраў. Яны выкідвалі капытамі рытмічныя, мерныя скокі. Круглыя, як талеркі, капыты дарагое панскае тройкі з крохкім вохканьнем мільгалі ў мяккім сьнезе. Быццам не капыты датыкаюцца зямлі, а нявідочны фокусьнік-жанглёр перакідвае з рукі ў руку дванаццаць дубовых кружалак.

Невядома, ці коні глыталі даль, ці наадварот. У сьнежную месячную ноч панская тройка ганялася за гэтай далячынёй, і нямаведама хто каго пераганяў. Дух захоплівала, вецер сьвісьцеў у вушах, і седакі на санях адчувалі, што яны рэжуць сабою напружанае, як шкло, зімовае паветра.

Коні мерылі сьнежную раўніну, выпукляліся на сінаватым глянцы сьнягоў, нібы малюнак на паперы.

Сані сьлізгаліся па роўным сьнезе, як лёгкі човен на возеры. Насупраць іх насіліся, як зварʼяцелыя, кучаравыя елкі, дробныя хмызьнячкі, якія выглядалі пасівелымі ў дарозе нямымі вандроўнікамі.

У прасторных панскіх санях сядзела чацьвёра людзей: на заднім сядзеньні з пухкім мядзьведзкім дыванам на нагах — пан Вашамірскі з ксяндзом, на пярэднім — фурман з Салаўём.

Усе маўчалі. Яны былі захоплены пекнатою зімовай ночы. Ува ўсіх пачуцьцё было спачатку зьвязана і пераплецена нечым адным — і чацьвёра людзей у сваім маўчаньні, у назіраньні вакольнай смуглай белі вельмі блізкі былі між сабой, або навет адной істотай, падзеленай на чатыры часткі.

Усе ўспрымалі гэтую ноч неадлучна ад прыгожай тройкі. Адно без аднаго існаваць не магло ў гэтым дзіка-імпэтным парываньні наперад — у сьнягі, у даль...

Але патрохі ад агульнага кажны пераходзіў у думках да свайго асабістага.

Поўны, суцэльны прастор мелі перад сваімі вачыма фурман і Салавей

Фурман усю ўвагу аддаваў на тое, каб ня перавярнуць саней. Зь нязвычайнай кемнасьцю ён трымаў лейцы ў левай руцэ і даўгую пугу ў правай. Як дырыжор-мастак, ён кіраваў коньмі: адны лейцы нацягне, як струны, аж пакуль не пачуе хруст конскіх зубоў аб зялеза цугляў, другія лейцы адпусьціць слаба, пакуль яны ня прыпадуць нізка да самага сьнегу доўгім выгнутым мянтузом потым лясьне лейцамі аб конскія круглыя бакі, стральне пугай, цмокне губамі, гікне, сьвісьне і зь нейкай затаёнай гордасьцю выпрастаецца на сядзеньні. Ён гляне ў даль дарогі з супакоем алімпійскага бога, як трыумфальны пераможца, як уладарнік неабмежаваных прастораў; або на хвіліну ўвапʼецца вачыма ў круглыя крыжы стаеньнікаў, нібы нешта на іх чытае. Пасьля гэтага зноў пачне лейцамі штукі рабіць.

Салавей мае поўную волю глядзець ува ўсе бакі, ні аб чым ня думаць. Ён ловіць кажны гук ночы, кажны шолах сьнегу, любуецца рытмікай бразгулак, тахтам глухога тупату капыт. Усе гукі ночы зьліваюцца ў яго ўспрыйманьні ў цэльную мэлёдыю, якая казытае вушы. Ад сядзеньня бяз руху яму то горача, то холадна робіцца ў левай часьці цела ад галавы да ног. Яму здаецца, што мэлёдыя падае на яго сьнежнымі кроплямі, акутвае белым кажухом. А зялёныя месячныя іскры ў сьнезе мігаюць да яго блескам Зоськіных вачэй... У белай далі Зоська паказваецца яму ў розных постацях і выглядах.

«Эх, каб так ды з Зоськай катацца на панскіх стаеньніках, зь ёю адной вечна імчацца, заўсёды бяз спынку... А калі ня з Зоськай, дык так пана пакатаць, каб костачкі яго ў пыл растрасьці...».

Ксёндз Марцэвіч сядзіць зь левага боку. Перад сабою ён бачыць толькі шырокую сьпіну фурмана. З правага — затуляе прастор пан. Толькі адзін бок дарогі цягнецца перад ім сіва-сінім абрусом. Вочы яго трохі заплыўшыя ад празь меру выпітага віна. У жываце — прыемная цяплынь ад сытнай яды. У вушах — аднастайны гук ветру, зьмешаны з глухім стукам конскіх капытоў. Гэта яго даводзіць да дрымоты. Ён засынае. Стукнецца галавой у бок пана, прачнецца і зноў пачынае драмаць. Яму здаецца, што ён у мяккай белай пярыне, але не разумее, чаму бачыць перад сабой сьнег. Рэзкі вецер казытае нос. Ксёндз праціpae вочы, думае, што запраўды сьпіць у пасьцелі, а дарога сьнежная, санкі і коні толькі сон, сьмешны і прыемны белы сон.

Пан Вашамірскі ўпіваецца выключна сьнежнай бельлю. Ён нічога іншага ня бачыць і ня чуе. Яму здаецца, што ня чуе навет звону бразгулак, стуку капытоў і іншых гукаў: але ў запраўднасьці гэтыя самыя гукі наводзяць яго думкі на тое, каб захапляцца дзіўнай бельлю, якая выклікае ў яго неспадзяваныя, «геніяльныя» думкі аб улюбёным тэатральным мастацтве.

У кажную хвіліну ўсё новыя праекты мітусяцца ў яго галаве. То ён думае пабудаваць у сваім маёнтку такі тэатр, які бачыў у Парыжы. То хочацца яму перавезьці трупу ў Варшаву. То думае распусьціць студыйцаў і вярнуць іх да ранейшай прыгоннай працы, а з суседніх маёнткаў набраць новых, больш здольных людзей...

Але кажная такая думка ня можа разгарнуцца да канца. Ксёндз Марцэвіч, які сядзіць зь левага боку, раптам стукнецца дрымотны ў бок пана Вашамірскага ,і думка разьбіваецца, як шкло, рассыпаецца, як гарох.

Злуецца пан Вашамірскі і давай нанова думаць. І новая думка, не пасьпеўшы расьцьвісьці, вяне і разбрызгваецца, нібы кроплі паміж пальцаў.

Адно застаецца неразьбітым у панскай галаве — непакоеньне аб студыі, якую ён пакінуў на цэлы дзень.

Санкі нясуць удаль гэтых чацьвярых людзей.

Сьнежны вецер падхоплівае іхнія думкі-мары і кідае ў месячныя зялёна-белыя невады...

Вырастаюць прысады маёнтку.

Тройка кідаецца туды, як у казачную браму. Гучныя бразгулкі плаваюць, лунаюць у паветры і даносяць у маёнтак, што пан вярнуўся.

З драцяных галін роўна абстрыжаных прысад падаюць уніз — на коней і людзей — лёгкія, кволыя сьняжынкі. Яны на ляту ружавеюць пад месячным зьзяньнем: якраз вішнёвы цьвет у маёвым садзе... Во зараз і пах ад іх пачуецца...

Вось-вось падʼедзе тройка да панскіх палацаў...

Вось-вось сустрэнуць яе на ганку асьнежаныя каменныя львы...

(Далей будзе)

# Сьвяткаваньне Гадавіны Слуцкага Паўстаньня

### Ў МЭЛЬБУРНЕ

2 сьнежаня ў Мэльбурне Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў і Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі супольна сьвяткавалі 36-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня. На праграму ўрачыстасьці злажыліся тры галоўныя пункты:

1. Літургія й Паніхіда.
2. Акадэмія.
3. Злажэньне вянка на магіле Нязнанага Жаўнера.

Урачыстую багаслужбу з малітвамі за беларускі народ і Паніхіду за палеглых змагароў Беларусі адслужыў а. Б. Стасышын у Украінскай А. П. Царкве. Гарачыя словы пропаведзі пратаярэя а. Віньніцкага, апякуна праваслаўных Беларусаў у Мэльбурне, прыгожы вянок ад камбатантаў перад аўтаром і вялікі бел-чырвона-белы сьцяг, за якім стаялі беларускія вернікі із сьвечкамі ў руках, стваралі настрой шчырае малітвы за Беларусь.

Пасьля Паніхіды, у прыцаркоўнай залі царквы Сьв. Лукі адбылася акадэмія. Адкрыў яе старшыня З. Б. Камбатантаў у Вікторыі, сп. М. Скабей. Песьня «Магутны Божа» падняла ўсіх зь месцаў і змусіла думкамі злучыцца із сваімі на Бацькаўшчыне.

Сп. Скабей у ўступным слове прыгадаў аб змаганьні беларускага народу ў мінулым і сяньняшнім часох за сваю свабоду й незалежнасьць. Ён зьвярнуў таксама ўвагу на сучаснае геройчнае змаганьне вугорскага народу з супольным нашым ворагам — расейскім камунізмам. Два разы хвілінай цішы прысутныя ўшаноўвалі памяць беларускіх і вугорскіх герояў.




**Беларуская дэлегацыя складае вянок перад помнікам Нязнанаму Жаўнеру**

Рэфэрат аб Слуцкім змаганьні прачытаў старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі, сп. П. Мікуліч. Пасьля яго сп. Скабей прачытаў з «Бацькаўшчыны» сучасныя разважаньні «Наша справа — справа праўдзівая».

У далейшым былі пададзеныя тры прапановы-рэзалюцыі:

1. Выслаць ад імя ЗБК і ЗБВ ды ўсіх прысутных на акадэміі прывітаньні й пажаданьні плённае працы 8-й Сэсіі Рады БНР у Амэрыцы. (Прынята аднагалосна).
2. Выслаць 8-й Сэсіі Рады БНР прапанову выступіць з вострым пратэстам супраць польскага ўраду на эміграцыі за пасяганьне на беларускія землі. (Прынята аднагалосна з малымі папраўкамі).
3. Выслаць прэм'еру Аўстраліі прызнаньне за хуткую дапамогу, выказаную Аўстраліяй вугорскім уцекачом і прасіць памятаць і аб іншых уцекачох з Усходняе Эўропы (Беларусі), якія да сяньня знаходзяцца ў Нямеччыне і Аўстрыі..

Рэзалюцыя гэтая, зусім слушная й актуальная, была, нажаль, бальшынёй галасоў адкінутая, што сьветчыць толькі аб недастатковай выробленасьці часткі прысутных.

Гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» акадэмія была закончана.

Пасьля яе дэлегацыя ў складзе 4-х асобаў паехала да помніка Нязнанаму Жаўнеру, дзе злажыла вянок у памяць Тых, што загінулі ў змаганьні з камуністычнай тыраніяй.

**М. Н.**

### ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ БЕЛАРУСІ Ў БЕЛАРУСКІХ ШАХЦЁРАЎ

**Садбуры, Канада.** Садбуры — гэта адзін зь вялікіх шахтавых цэнтраў Канады. І сюды трапілі Беларусы, і то паважнай групай. Адны зь іх працуюць пад зямлёй, здабываючы медзь і нікель, іншыя — наверсе. Акліматызаваліся, абжыліся, некаторыя купілі собскія дамы, самаходы, ураслі ў канадыйскі дабрабыт. Аднак, яны не забыліся, што яны — Беларусы. Заможнае жыцьце не зацерла ў іхных душах любові да роднага краю, штодзённы бег канадыйскага жыцьця не перарывае іхнага зацікаўленьня беларускімі справамі.

Ужо некалькі год таму беларускія шахцёры ў Садбуры залажылі сваю арганізацыю — аддзел Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе і праз гэтую арганізацыю бяруць чынны ўдзел у беларускім жыцьці. Апрача таго, яны пашыраюць імя Беларусі ў чужым асяродзьдзі ды арганізавана адзначаюць усе важнейшыя беларускія падзеі.

У нядзелю 2-га сьнежаня Беларусы ў Садбуры гожа адзначылі дзень Герояў Беларусі. Урачыстасьць пачалася службай Божай у мясцовай праваслаўнай Украінскай царкве, пасьля якое адбылася Паніхіда за душы Тых, што «памерлі, каб жыла Бацькаўшчына». Служыў наш сьвятар а. Міхаіл у саслужэньні зь мясцовым украінскім сьвятаром. Паміналіся ня толькі тыя, што загінулі ў Слуцкім Паўстаньні, але і ўсе тыя, што аддалі сваё жыцьцё за Беларусь — на ваенным полі, у турмах, канцэнтрацыйных лягерох. Кароткае й чулае казаньне а. Міхаіла ўзварушыла ня толькі Беларусаў, але й Украінцаў, якія разам зь Беларусамі злучыліся ў братняй малітве.

А другой гадзіне папаўдні пачалася ўрачыстая акадэмія, на якую сабралася больш за 40 асоб. Адкрыў акадэмію старшыня аддзелу ЗБК у Садбуры, сп. Буцько. Пашану загінулым беларускім героям і прывітаньні прысутным выказалі прадстаўнік Галоўнай Управы ЗБК, сп. інж. Бруцкі і прадстаўнік мясцовага аддзелу Лігі Вызваленьня Ўкраіны. Даклад аб Дні Герояў Беларусі прачытаў др. Жук. Затым была праслухана беларуская праграма радыя «Вызваленьне», прысьвечаная гэтай падзеі. Праграма гэтая, пераплеценая прынагоднымі песьнямі й музыкай, была глыбака ўспрынятая й перажытая прысутнымі. Гукі беларускага й канадыйскага гімнаў закончылі акадэмію.

Але сход на гэтым не закончыўся. Месца ўрачыстай акадэміі заняла беларуская гасьціннасьць, якую так прыгожа выявілі мясцовыя беларускія жанчыны. Яны запрасілі ўсіх прысутных у іншую залю, дзе за багата накрытымі сталамі, у сяброўскай атмасфэры, быў спажыты супольны абед.

Садбуры разьмешчаны сярод голых каменных узгоркаў, якія навяваюць каменную нуду. Аднак беларускія сэрцы не зьмяніліся ад гэтага каменнага наваколься. У асяродзьдзі сымпатычных сем'яў нашых шахцёраў чуешся, як на Беларусі. З сумам давялося пакідаць гэтае мілае беларускае асяродзьдзе ды брацца ў далёкую дарогу ў Торонто.

**Таронтавец**

### ТОРОНТО (КАНАДА)

У нядзелю 25-га лістапада беларуская калёнія з Торонта й ваколіцаў сабралася на ўрачыстую Багаслужбу ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскала. Пасьля Сьв Літургіі і высьвячэньня дараханіцельніцы, якую вернікі нядаўна закупілі для царквы а. Міхаіл адслужыў паніхіду за змагароў, злажыўшых сваё жыцьцё на аўтар вызваленьня Беларусі.

А гадзіне 6-ай вечарам таго-ж дня мясцовыя Беларусы, пераважна сябры аддзелеў ЗБК Таронта, Ашавы й Лёндану, сабраліся ў абшырнай летувіскай залі, дзе сп-р М. Грыцук, Старшыня ЗБК, адкрыў урачыстую акадэмію.

З дакладам выступіў сп-р д-р Жук. Ён прыраўнаў Слуцкі збройны чын з цяперэшнімі падзеямі ў Мадзяршчыне і сьцьвердзіў, што сяньня вольны сьвет, хаця зброяй не дапамагае Мадзярам, шмат іх лепш разумее, чым разумеў нас 36 год таму назад.

Пасьля прачытаньня апэлю і адсьпяваньня «Сьпі пад курганам», верш «Беларусь» выдатна прадэклямавала сп-ня др. Р. Жук. Вова Барановіч, як і заўсёды, добра сказаў верш «Зваяваным».

Дуэт «Арлянятам» быў вельмі добра прасьпяваны сп-няй Л. Рагуля і сп-ром Жураўскім. Яны-ж выканалі і два іншыя дуэты: «Нёман» і «Ружы кветка». Сп-ня Л. Рагуля са сп-няй Галенай Шуст удала выканалі дуэт «Разьвівайся, сыры дубе», а сп-р Жураўскі прасьпяваў солё — «Ой сокал, мой сокал». Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

Ад прысутных належыцца вялікая падзяка нашым лёнданцам за іхны вялікі ўдзел у мастацкай частцы. Пажадана было-б на наступны раз бачыць больш удзельнікаў і ад іншых нашых асяродкаў.

**М. К-р**

### ПАРЫЖ (ФРАНЦЫЯ)

25-га лістапада г. г. беларуская калёнія ў Парыжы ўрачыста адсьвяткавала 36-ыя угодкі Слуцкага чыну.

На акадэміі ізь зьмястоўным рэфэратам на тэму «Слуцкае паўстаньне на фоне сучасных падзеяў» выступіў старшыня Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі сп. Міхась Наўмовіч. Другі рэфэрат прачытаў Рэктар Беларускай Рэлігійнай Місіі ў Парыжы а. Гарошка. Прэлегент абшырна насьветліў сучаснае паложаньне на Беларусі паводля прэсы, што там выходзіць.

На заканчэньне была прынятая рэзалюцыя, у якой выказваліся сымпатыя й спачуваньні вугорскаму народу, які вядзе трагічнае змаганьне за сваю незалежнасьць.

### МЮНХЭН (НЯМЕЧЧЫНА)

29 лістапада беларуская калёнія ў Мюнхэне адзначыла 36 угодкі Слуцкага паўстаньня . Багатая аналягічнымі да Слуцкага паўстаньня падзеямі сёлетняя восень наклала свой адцень на сёлетнія Слуцкія ўгодкі. Напружанасьць і задуменьне адбівалася на тварах прысутных на жалобнай Паніхідзе, адслужанай айцом Салаўём, і ў часе прынагоднай урачыстай акадэміі. У прачытаным кароткім рэфэраце, вытрымкі зь якога зьмешчаны на іншым месцы, гэты-ж настрой знайшоў таксама свой адпячатак. З гэтай самай прычыны прадэманстраваная працаўнікамі беларускай сэкцыі Радыё «Вызваленьне» актуальна скампанаваная, глыбока патрыятычная і мастацка выкананая прынагодная радыёперадача на Беларусь да сьлёз расчульвала прысутных. Падобна ўзьдзейвала і праслуханая з дыктафону прамова старшыні «Парыскага Блёку» інжынера М. Абрамчыка, сказаная на мітынгу гэтай арганізацыі ў Нью Ёрку і перададзеная на Беларусь праз Радыё «Вызваленьне», Ня выказваючы гэтага лішні раз славамі, у прысутных адчувалася ўпэўненасьць, што Слуцкія паўстанцы змагаліся за справу справядлівую і што іхнія высокія мэты апраўдываюць іх ахвяры.

### Ў КЛІЎЛЭНДЗЕ (ЗША)

У нядзелю 2-га сьнежаня Беларусы Кліўлэнду ўрачыста абходзілі 36-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня. А 12-ай гадз. пасьля звычайнае Сьвятое Літургіі, у царкве Жыровіцкае Божае Маці была адслужаная Паніхіда па палеглых слуцкіх паўстаньцах і ўсіх Беларусах, што аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі. Традыцыйны вянок на магілу слуцкіх паўстанцаў, беларускі й амэрыканскі сьцягі, запаленыя сьвечкі ў руках прыхаджанаў, прынагоднае казаньне а. Ефімія — усё гэта надавала Паніхідзе ўрачысты настрой. А 5-ай гадз. папаўдні у перапоўненай залі Полёнія Гол пачалася акадэмія. Адкрыў яе старшыня аддзелу БАЗА сп. М. Латушкін. Па адсьпяваньні Ірай Калядой амэрыканскага гімну, ён прапанаваў уставаньнем і хвілінаю цішы ўшанаваць памяць слуцкіх паўстанцаў. Хор Аддзелу выканаў жалобны марш. Рэфэрат аб паўстаньні прачытаў сп. А. Каханоўскі. У мастацкай частцы акадэміі — дэклямацыі патрыятычных вершаў й выступленьне хору пад кіраўніцтвам ведамага дырыгента сп. К. Кіслага. Закончылася акадэмія Беларускім Нацыянальным Гімнам.

**У. Д.**

## «ВАЙНА З РАСЕЙЦАМІ—НЯМІНУЧАЯ»

**(Заканчэньне з 6-тай бачыны)**

каўшчына можа быць вогнішчам, на якім можа згарэць аўстрыяцкі арол. Цячэньне гісторыі можа ўзяць такі кірунак, што прывядзе да катастрофы. Хай тыя, што маюць уладу, хай нацыя сьцеражэцца, каб гэтага ня здарылася.

**Нацыянальны герой ці рэакцыянэр**

У камуністычнай Вугоршчыне ад 1945 г. Л. Кошут, згодна вымогаў савецкай прапаганды, лічыцца нацыянальным рэвалюцыянэрам і сацыяльным рэфарматарам, які хацеў свой край зрабіць незалежнай рэспублікай, аддзяліцца ад Аўстрыі й Габсбургаў, зьнесьці эксплятацыю сялянства, устанавіць свабоду прэсы ды іншыя свабоды, а таксама завесьці канстытуцыйную сыстэму ўраду. Ягоныя пагляды на імпэрыялізм і небясьпеку гэтага імпэрыялізму для вольнае Эўропы й Вугоршчыны поўнасьцяй прамоўчваліся, бо ў іншым выпадку ён ня мог-бы быць для вугорскага камуністычнага рэжыму вузорам нацыянальнага героя. Калі-б Кошуту давялося жыць сяньня ў камуністычнай Вугоршчыне, і калі-б ён выказаў свой пагляд аб Расеі й расейскай палітыцы, так як у сваіх цытаваных тут лістох, ён быў-бы рэакцыянэрам, фашыстым, бандытам Гортага і капіталістычным наёмнікам, якога трэба было-б, у інтарэсах народнае дэмакратыі і для дабра народу, зьліквідаваць. Ён-бы закончыў сваё існаваньне ў падвалах будапэскага АВО ці ў сібірскіх концлягерах.

**Бруно Скрэгунэц-Гільлебранд**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

**Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў у Вікторыі (Аўстралія)**
**Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі і ўсе Прысутныя на ўрачыстасьці сьвяткаваньня 36-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня,**
**2 сьнежаня 1956 году ў Мэльбурне Аўстралія**

**Яго Шаноўству,**
**Старшыні 8-е Сэсіі Рады БНР**
**у Нью Ёрку, ЗША**

Мы, беларускія камбатанты, сябры Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі і прысутныя ўрачыстага сьвяткаваньня 36-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня, разважыўшы пастанову IV-й сэсіі Польскай Рады на эміграцыі на чале з прэзыдэнтам Рэчыпаспалітай Польскай А. Залескім з 27-га кастрычніка 1956 году, якая датычыць заходніх межаў Беларусі і ўсходніх межаў Польшчы, пастанавілі:

1. Прапанаваць 8-й Сэсіі Рады БНР скласьці мэмарыял Задзіночаным Нацыям з дамаганьнем асудзіць намеры польскага ўраду на эміграцыі захапіць ізноў вялікую частку беларускіх земляў.
2. Скласьці войстры пратэст польскаму ўраду на эміграцыі адносна няпраўнага пасяганьня на беларускія землі.
3. Перасьцерагчы польскі ўрад на эміграцыі перад небясьпекай, што ягоны ўчынак выклікае варожасьць беларускага народу да польскага.
4. Дамагацца ад польскага ўраду на эміграцыі анулявання пастанову IV-е сэсіі Польскае Рады, якая датычыць беларускіх земляў.
5. Дамагацца ад польскага ўраду на эміграцыі прызнаньня беларускае дзяржавы ў ейных этнаграфічных межах і паданьня аб гэтым у польскай прэсе.
6. Заклікаць усе беларускія арганізацыі спыніць супрацоўніцтва з польскімі арганізацыямі, якія падтрымоўваюць вышэй спомненую пастанову IV-е сэсіі Польскае Рады да часу ейнага ануляваньня.

Мэльбурн, Аўстралія, 2. XII. 1956 г.

**М. Нікан за П. Мікуліча**
Старшыня ЗБВ
**А. Кулакоўскі**
упаўнаважаны ад прысутных на ўрачыстасьці
**М. Скабей,**
Старшыня ЗБК

# Разважаньні з нагоды Слуцкага Паўстаньня

**(Вытрымкі з рэфэрату, прачытанага на Акадэміі у Мюнхэне, прысьвечанай угодкам Слуцкага паўстаньня)**

Адзначаючы чарговыя ўгодкі Стуцкага паўстаньня, кажны з нас імкнецца напэўна зрабіць яшчэ адну, па магчымасьці як найбольш аб'ектыўную, ацэнку гэтага здарэньня й вызначыць яго практычнае й сымбалічнае значэньне ў разьвіцьці гісторыі нашага народу апошніх дзесяцігодзьдзяў. Кажны з нас стараецца напэўна знайсьці таксама Слуцкаму паўстаньню адпаведнае месца між аналягічных падзеяў у іншых народаў, падзеяў ранейшых і пазьнейшых за Слуцкае паўстаньне ды асабліва тых, якія прыкоўваць да сябе ўвагу сьвету апошнімі гадамі, выклікаюць розныя пачуцьці й утрудняюць прыход усіх да аднаго пераканаць пры ацэнцы падобных падзеяў: у вадных яны падтрымоўваюць веру ў жыцьцёвасьць і правільнасьць ідэалаў асабістай і нацыянальнай свабоды, у патрэбу нясеньня найбольшых ахвяраў у імя гэтых ідэалаў, — у іншых — выклікаюць глыбокае расчараваньне, што толькі крыві да таго з найбольш гарачых сэрцаў, пралівалася й праліваецца надарма.

Спрабуем, аднак, у атмасфэры гэтых розных пачуцьцяў скрышталізаваць і абгрунтаваць той пагляд, які на нашу думку у гэтых дачыненьнях, павінен быў-бы быць найбольш рацыянальным.

Слуцкае паўстаньне, зразумела, ня ёсьць нейкім вынятковым зьявішчам у гісторыі чалавецтва. Падобныя паўстаньні былі, ёсьць і, напэўна, будуць адбывацца ў будучыні. Але кантынуацыя гэтых здарэньняў паказвае іх неабходнасьць. Гэтая неабходнасьць абумоўленая, бязумоўна, абставінамі, але гісторыя пацьвярджае, што ўсе большыя або меншыя народныя паўстаньні адбываліся й адбываюцца ў падобных палітычных, сацыяльных і эканамічных абставінах. Коратка кажучы, ніколі народ не паўставаў, каб устанавіць, напрыклад, палітычную тыранію, сацыяльную ці нацыянальную няроўнасьць і несправядлівасьць, ці эканамічную адсталасьць, але наадварот, усе паўстаньні былі й ёсьць ськіраваныя ў процілежным кірунку. Калі да гэтага дадаць, што народныя паўстаньні ў большасьці выпадкаў выбухаюць стыхійна, і праводзяцца без належнай, або і ніякай арганізацыі, то гэта яшчэ раз паказвае, што ў натуры чалавека заложаныя прыродныя імкненьні ў зусім акрэсьленым кірунку. Ніхто, хіба, не запярэчыць, што шуканьні бальшыні людзей, асабліва на сяньняшняй ступені цывілізацыі, ідуць у кірунку свабоды, роўнасьці, справядлівасьці й поступу. Адсутнасьць-жа гэтых умоў паасобныя людзі й цэлыя народы паступова і ўсё мацней пачынаюць не сумяшчаць з сваёй чалавечай годнасьцяй і рызыкуюць нават сваім жыцьцём у імя асягненьня гэтых сваіх людзкіх патрабаваньняў. І вось Слуцкае паўстаньне ёсьць вялікім сьведчаньнем таго, што Беларускі народ здольны ісьці за духам часу. Стагодзьдзямі найбольш прыгнечваны ў найбольш адсталай эўрапэйска-азіяцкай расейскай імпэрыі, у першую сусьветную вайну, за надзвычай кароткі час, ён змог узьняцца на вышыню імкненьняў тагачаснага цывілізаванага сьвету.

Між усімі іншымі прагрэсыўнымі вымаганьнямі тагачасных перадавых народаў у Слуцкім паўстаньні дамінаваў, бязумоўна, аспэкт нацыянальна-палітычны. І гэта зразумела, бо асабліва нашае стагодзьдзе характэрнае разгарам працэсу нацыянальнае эманцыпацыі народаў і распадам многанацыянальных імпэрыяў на іх складовыя часткі. Хаця расейскі бальшавізм хацеў прыпыніць гэты працэс на тэрыторыі царскай імпэрыі, уводзячы паралельна новы, сацыяльны фэрмэнт, і падмяніць натуральны працэс нацыянальнага самавызначэньня народаў абстрактнай ідэяй «пралетарскага інтэрнацыяналізму», — працэсу гэтага спыніць не ўдалося. Мы сяньня бачым, што з такой самай сілай, зь якой ён кладзе канец клясычным заходня-эўрапэйскім імпэрыям, гэты працэс падточвае й мадэрную імпэрыю бальшавіцкую ды прарочыць ёй нямінучую гібель. Ды пануючыя каляньяльныя нацыі не ахвотна зракаюцца сваіх прывілеяў. Таму гэты працэс суправаджаецца, нажаль, праліцьцём крыві...

Абагульняючы гэтыя кароткія разважаньні, трэба прыйсьці да высnаву, што, падобна як і ў прыродзе, так і ў працэсе сталага культурнага й палітычнага пераўтвараньня сьвету ўсё новае, што прыходзіць на зьмену старому й аджываючаму, родзіцца ў муках, цярпеньнях і крыві. Таму й Слуцкае паўстаньне можна й трэба разглядаць, як адзін з прызнакаў народзінаў новага пэрыяду ў гісторыі Беларускага народу, пэрыяду, які, прадыктаваны законамі разьвіцьця ўзаемадачыненьняў паміж народамі, непазьбежна прывядзе да ўмацаваньня пазыцыі й Беларускага народу ў будучай сям'і вольных, раўнапраўных і суверэнных народаў сьвету.

## Рэгабілітацыя „Нашае Нівы"

Як ведама, у савецкай Беларусі газэта «Наша Ніва» не карысталася добрай славай. Аб ёй пісалі шмат і парознаму, аднак найчасьцей адмоўна. Не рэгабілітаваная яна поўнасьцяй і да гэтага часу, аднак гаворыцца аб ёй ужо зусім іншым тонам. Вось, што пісалася пра гэтую найвялікшую газэту ў «Літаратуры і Мастацтва» 17 лістапада 1956 г.

☆

.... «Наша Ніва» запраўды многа зрабіла карыснага — гэтага адмаўляць ніхто ня можа — у справе пашырэньня асьветы, у разьвіцьці беларускай культуры і літаратуры. Вядома што яна сыстэматычна выдавала «Беларускія календары» (1910-1915 гг.), гэтыя своеасаблівыя альманахі, у якіх друкаваліся творы беларускіх літаратараў. «Нашай Нівай» былі выдадзены многія зборнікі беларускіх паэтаў і празаікаў, зборнікі артыкулаў, п'есы, кнігі, брашуры, якія мелі важнае літаратурна-мастацкае, гаспадарчае, навуковае і культурнае значэньне. Для сялян «Наша Ніва» выдавала сельскагаспадарчы часапіс «Саха», для моладзі — часапіс «Лучынка», для дзяцей — часапіс «Іскрачка». Пад уплывам «Нашай Нівы» выходзіў часапіс «Раніца» (ворган пецярбурскіх студэнтаў), альманах «Маладая Беларусь»; адначасова былі выданьні і такіх альманахаў, як «Калядная пісанка» і «Вялікодная пісанка». Варта адзначыць, што пры ўдзеле «Нашай Нівы» былі арганізаваны асобныя беларускія выдавецтвы — «Наха хата», «Мінчук», «Беларускае выдавецкае таварыства», «Вясёлкі» і «Палачанін», якія выдавалі навуковую і мастацкую літаратуру ў беларускай мове.

Пры непасярэднай падтрымцы «Нашай Нівы» ў Менску, Пецярбургу, Вільні іншых гарадох былі ўтвораны навукова-літаратурныя, музычна-драматычныя і харавыя гурткі, у паасобных месцах нашага краю былі арганізаваны школы, у якіх выкладаньне вялося ў беларускай мове...»

# Зь беларускага жыцьця

### БЕЛАРУСЫ Ў АНТЫКАМУНІСТЫЧНЫХ МАНІФЭСТАЦЫЯХ У МЭЛЬБУРНЕ

Летась і сёлета ў Мэльбурне, у сувязі з сусьветнымі падзеямі (візыта чырвоных лідэраў у Лёндане, падзеі ў Польшчы, у Вугоршчыне й г. д.) адбылося шмат пратэстацыйных антыкамуністычных маніфэстацыяў.

Яны былі ладжаныя зацікаўленымі нацыянальнымі камітэтамі (польскім, украінскім, вугорскім) супольна з Камітэтам Народаў за Зялезнай Заслонай (сябрам якога зьяўляецца Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі), пры выдатнай падтрымцы А. К. Лейбор Партыі ды некаторых прафсаюзаў у Мэльбурне.

У маніфэстацыях гэтых бралі актыўны ўдзел (найчасьцей із сьцягамі і адпаведнымі транспарэнтамі) прадстаўнікі Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі і Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Вікторыі. Прастаўнікоў аднак не-БНРаўскіх арганізацыяў (у тым ліку й былога кіраўніка Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Аўстраліі) на маніфэстацыях відаць ня было. Таму не адзін зь Беларусаў пытаўся: якія прычыны гэтага? Ці гэта не зьяўляецца сьведамым або нясьведамым падтрымоўваньнем нашых супольных ворагаў? Закід паважны — асабліва тым, якія так шмат крычаць на сваіх беларускіх зборках. Добра было-б пачуць выясьненьні.

**Н.**

### БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА Ў КЛІЎЛЭНДЗЕ

У кастрычніку месяцы ў Кліўлэндзе, стараньнямі культурна-асьветнага рэфэрэнта інж. К. Калошы й бацькоў, заснавалася беларуская школка, якая ўжо налічвае 18 дзяцей у веку ад 6-ці до 11-ці. Заняткі адбываюцца кажнае сыботы. Дзеці вучацца зь вялікай ахвотай і зацікаўленьнем, дзякуючы добрым настаўнікам. Настаўнікамі зяўляюцца сп. К. Кіслы й сп. В. Шчэцка. Абодва прыбылі з Бэльгіі ў гэтым годзе. Сп. В. Шчэцка, які закончыў свае студыі ў Бэльгіі, выкладае беларускую мову, а сп. К. Кіслы, дырыгент студэнцкага ансамблю ў Бэльгіі, а цяпер добры дырыгент і грамадзкі працаўнік у Кліўлэндзе, выкладае рэлігію й сьпевы. Цяпер настаўнікі падрыхтоўваюць дзяцей да ялінкі. Ня можна тут абмінуць і заслугі сп. А. Лук'янчыка, які так прыгожа ўмэбляваў беларускую школку.

**У. Д.**

## Культурна-асьветныя сходы Беларусаў Нью Ёрку й Джэрсі Сіты

25-га лістапада 1956 адбыўся ў Нью Ёрку трэйці Культурна-Асьветны Сход Беларусаў Нью Ёрку і Джэрсі Сіты. На сходзе др. Я. Станкевіч меў рэфэрат на тэму «Найвыдатнейшыя беларускія гаспадары-вайводцы — Вялікі Князь Алег Северскі», было пяяньне з кружэлак на грамафоне, жывая газэта, каторую правёў Юрка Станкевіч. Галіна Ворса дэклямавала вершы, а Вячка Станкевіч прадэклямаваў із «Слова аб палку Ігаравым» песьню пра Алега Северскага.

Спачатку лектар у колькіх словах адзначыў тэрыторыю Вялікага Княства Северскага XI стагодзьдзя, важнейшыя ў ім месты і пляменна-беларускі склад ягонае люднасьці. Па гэтым ён каротка падаў гісторыю гэтага беларускага гаспадарства ад сьмерці Імсьціслава Вялікага 1036 г. да сьмерці Сьвятаслава 1076 г. — абодвых вялікіх князёў северскіх. Ад 1073-1076 г. Сьвятаслаў быў вялікім князем у Кіеве, але ў пачуцьці сваім ён застаўся князем северскім. І ўміраючы ён у сваім тэстамэньце загадаў пахаваць сябе ня ў Кіеве, але ў Чарнігаве, сталіцы Вялікага Княства Северскага.

Па сьмерці Сьвятаслава ўкраінскія князі, Ізяслаў і Ўсевалад, супраць волі Севяран, займаюць Севершчыну. Северане на чале з Алегам, сынам Сьвятаслававым, гэраічна ваююць за сваё вызваленьне. Войны вядуцца із зьменным шчасьцем. Здарылася й так, у 1079 г., што падкупленыя Ўсеваладам Полаўцы забілі Рамана Краснага, брата Алегава, а яго самага Хазары з намовы Ўсевалада схапілі й прадалі ў няволю на абток Родос на Міжземным моры. Але ў 1094 г. Алег вырваўся зь няволі вярнуўся ў Севершчыну і ваяваў далей за сваю бацькаўшчыну. Смаленскія Крывічы памагалі сваім суродзічам Северанам. Войны скончыліся поўнай перамогай Севершчыны. Ад 1097 г. ніхто не пасягаў на цэласьць і незалежнасьць Вялікага Княства Северскага. Памёр Алег у 1115 г. Значэньне яго ў Вялікім Княстве Северскім такое, як Усяслава Вялікага ў Полаччыне.

Падобная праграма была на папярэдніх Культурна-Асьветных Сходах і будзе на наступных. (На першым зь іх быў рэфэрат на тэму: «Беларускія гаспадары /вялікія князі/, што не хацелі гаспадарстваваць у чужых — Імсьціслаў Вялікі Северскі і Ўсяслаў Вялікі Полацкі»; на другім тэма рэфэрату была: «Вонкавая гісторыя беларускага права ў розных порах гісторыі Беларусі»).

Культурна-Асьветныя Сходы ладзіць Культурна-Асьветны Рэфэрат Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Мэтаю іх ёсьць даць нашым людзям прыямнейшы й карысьнейшы супачынак пасьля тыднёвай працы. Гэткім парадкам такія сходы пашыраюць веду сваіх удзельнікаў і маюць нацыянальна-ўзгадаваўчае значэньне. Бываюць яны раз на месяц. Пажадана, каб былі часьцей; але ў некаторыя прамежкі часу, калі бываюць яшчэ іншыя зборкі й імпрэзы культурнага характару, бывае даволі культурна-асьветнага сходу раз на месяц.

Каб рэфэраты Культурна-Асьветных Сходаў у Нью Ёрку маглі быць выкарыстаныя яшчэ ў ваддзелах Задзіночаньня, Галоўная Рада Задзіночаньня адбівае іх на ратататры і рассылае па адным эгзэмпляры ў ваддзелы. Калі дэклямаваныя вершы прытарнаваныя да рэфэрату, дык яны рассылаюцца разам з рэфэратамі. Таксама будзе рассылацца той матарыял із жывое газэты, каторага значэньне мае трывалкі характар.

Культурна-Асьветны рэфэрат Галоўнае Рады Задзіночаньня зьвярнуўся да беларускіх навукоўцаў з просьбаю напісаць у працягу году па колькі рэфэратаў із свае адумысловасьці. Яны будуць адбітыя ў Нью Ёрку на ратататры і расасланы па аддзелах. Трэба спадзявацца, што нашыя навукоўцы адгукнуцца на гэтую просьбу.

Пажадана, каб рэфэраты былі таксама пасыланыя па адным эгзэмпляры беларускім арганізацыям у Канадзе, Аргентыне, Ангельшчыне, Аўстраліі і ў іншых краёх. Дзеля гэтага няхай-бы кіраўніцтвы гэтых арганізацыяў паразумеліся з Галоўнай Радаю Задзіночаньня. Ейны адрас гэткі:

c/o Mr. M. Tulejko
656 Hopkinson Ave
Brooklwn 12, N. Y. U.S.A.

**Максім Прынскі**



Дзеці і настаўнікі беларускае школы ў Кліўлэндзе

## Із Жывое Газэты

### 25 ЛІСТАПАДА 1956 г. КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНАГА СХОДУ Ў НЬЮ ЁРКУ

**Ведамка пра старую эміграцыю.**

Апошнім часам рэдакцыя Жывое Газэты атрымала прыемныя ведамкі, што беларуская старая эміграцыя ў США далёка яшчэ ня ўся ўмерла для свайго народу. Ёсьць шмат людзей з нашае старое эміграцыі, што чуюцца яшчэ зрослымі карэньнямі із сваім народам. Яны болей-меней прыяюць беларускай справе і жадаюць яе развою. Прынамся часьць іх дзейна прылучыцца да беларускага руху, калі дзяючыя цяпер Беларусы дакрануцца іх у сваёй працы.

Адзін Беларус піша нам: «На сходзе Беларусы якія сябе ўважаюць або ўважалі за Расейцаў, шмат паддзержылі мяне ў беларускай справе. Адзін сказаў: «Тут Расейцаў няма, адны Беларусы, я цешуся».

Беларусы із старое эміграцыі, што ня зьгінулі й ня зьгінуць для свайго народу, ёсьцека сярод праваслаўных, пратэстантаў і каталікоў.

**Патрэбныя беларускія сьвятары**

Нам пішуць: «Беларусы-праваслаўныя ў Міннэаполіс мучацца ў чужых цэрквах. Некаторыя зь іх у сустрэчы зы мной шмат мне выліваюць свой жаль. Падумайце над гэтым».

**Паняволеныя народы маюць быць ваяўнічыя**

У сувязі з паходам Ізраэля на Эгіпт прыпамінаецца, што перад Другой Сьветавай вайною можна было чытаць у жыдоўскім друку, што Жыды павінны разьвіваць у сябе ваяўнічасьць. Запраўды, міралюб'е або пацыфізм карысныя, калі яны бываюць у народаў імпэрыялістычных, у тых, што заваявалі і дзяржаць у няволі іншыя народы. Ад міралюб'я імпэрыялістычных народаў можа быць толькі карысьць у сьвеце. Але народы паняволеныя патрабуюць быць ваяўнічымі, бо іхная ваяўнічасьць паможа ім вызваліцца зь няволі. Не ваюючы, рэдка які народ вызваліўся.

**Манголы ў расейскім войску.**

Газэты паведамляюць, што ў савецкім войску, каторае здушыла паўстаньне ў Мадзяршчыне, ёсьць шмат жаўнераў з народаў мангольскіх. Яны пытаюцца: «Дзе вялікі канал? (значыцца Суэскі канал). Кажуць, што іх паслалі ваяваць супраць брытанскіх агрэсараў, якія прыйшлі паняволіць Эгіпт. У СССР ім казалі, што яны паедуць бараніць сваіх супернікаў — эгіпскіх мусульманаў — ад брытанскіх, францускіх і жыдоўскіх імпэрыялістых.

Гэта ня першыня, што мангольскія народы бароняць і памагаюць пашыраць расейскую турму народаў. Ведама, робяць яны гэта нясьведама.

Пакуль Маскоўшчына была пад татарскім ярмом, татарская Залатая Арда памагала пашырэньню маскоўскага гаспадарства, бо маскоўскія князі шчодра плацілі дань Татарам. Гэтая памога залежыла ад ханаў Залатой Арды.

Па вызваленьні ад Татар у 1480 годзе Масква ў сваіх войнах із суседзямі беспасярэдня і заўсёды вельмі карыстаецца татарскай масаю. Найчасьцей гэта былі войны з гаспадарствам беларускім, якое тады звалася Вялікім Княствам Літоўскім. У часе гэтых войнаў лік Татараў у маскоўскім войску быў надта вялікі, шмат большы чымся гэта адказвала-б іхнай чысьленасьці ў Маскоўскім гаспадарстве. Ёсьць пра гэта мноства сьветчаньняў. Татары былі добрымі й вернымі Маскве ваякамі. Якія прычыны гэтага? Былі добрымі ваякамі дзеля таго, што ўсе турка-татарскія народы адзначаюцца ваяўнічасьцю, да вайны яны заўсёды ахвотныя. А верныя былі дзеля таго, што турка-татарская маса адзначаецца сьляпой паслушнасьцю і адданасьцю сваім правадыром. У мангольскіх, у тым ліку турка-татарскіх плямён, захапленьне сваімі ханамі даходзіла да таго, што яны трацілі сваё пляменнае імя і зваліся іменем свайго хана. Із зьменаю хана мяняўся і назоў племені, так што цяжка бывае іншы раз даведацца, ці гэта тое самае племя ці іншае. Таксама месты ня толькі зваліся паводля імені таго або іншага валадара, але й пры зьмене валадара зьмяняла назоў і места, атрымліваючы назоў новы, паводля імені новага валадара. Ці ня тое самае бывае цяпер у расейскіх бальшавікоў?

Здабыць-жа адданасьць татарскіх правадыроў пры сьляпой вернасьці ім татарскай масы ня было цяжка: можна было іх спадмануць, ашукаць і ў канцы проста падкупіць.

### НА ФОНД БЕЛАРУСКАЕ КНІЖКІ

**Падпісны ліст № 2, зьбіральнік сп. Ул. Дунец, (ЗША):**

С. Карніловіч — 3 дал., К. Калоша — 7 дал., А. Сацэвіч — 5 дал., Ул. Дунец — 3 дал. **Разам — 18 даляраў.**

**Падпісны ліст № 24, зьбіральнія сп. А. Мароз (Аўстралія):**

А. Мароз — 1 фунт. М. Лейко — 0,5 фунта, М. Раецкі — 0,5 фунта. **Разам — 2 фунты.**

**Падпісны ліст № 27, зьбіральнік сп. Я. Сажыч (ЗША):**

М. Фосс — 2 дал., Ст. Татарыновіч — 1 дал., Ф. Шабовіч — 1, Ю. Мазура — 3, М. Сэрдэчэнко — 2, У. Зубараў — 1, А. Гардынец — 1, А. Гарбачоў — 1, В. Пляскач — 2, Б. Сажыч — 1. **Разам — 15 даляраў.**

Усім Паважаным зьбіральнікам і ахвярадаўцам — шчырае дзякуй.

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

### АД ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Абвешчаны раней месяц студзень 1957 году месяцам таннай беларускай кніжкі на просьбу некаторых нашых Прадстаўніцтваў працягваецца яшчэ й на месяц люты 1957 году.**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты тольві пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**

---

*Куток беларускае прыроды*

## Па сьвежых сьлядох

Я й мой сябра даўно ўжо зьбіраліся папаляваць на зайца. І вось сяньня сьвежая пароша супала з вольным днём; выпадак даволі рэдкі, і прапусьціць яго было нельга.

І вось мы зь сябрам выбраліся ў дарогу. Пачынала сьвітаць. На фоне неба вяршыні старых елак здаваліся намаляванымі чорным тушам. Міжволі хацелася слухаць і слухаць ранішнюю лясную цішыню.

Мы пайшлі па ледзь прыкметнай лясной сьцежцы. Хутка яна вывела нас у поле, за якім віднеўся лес. Па ўзьлеску абыйшлі ўсё поле — зайчыных сьлядоў ня было.

Накіраваліся йзноў у глыбіню лесу і натрапілі на нейчы сьлед. Гэта ваверка зыскочыла з дрэва і, зрабіўшы некалькі скачкоў, узабралася на старую елку. Тут яна церабіла яловую шышку й насьмеціла на сьнезе.

Блукалі мы доўга. Прайшлі лесасекай, дзе яшчэ ляжалі кучы гальля, абыйшлі дробналесьсе і невялікі забалочаны луг, але зайчыных сьлядоў ня ўбачылі. Затое ўсё часьцёй пачалі трапляцца сьляды лісіцы. То яны акаймоўвалі ўзьлесак, то йшлі далёка ў поле, то блыталіся па равох і нізінах.

Адчувалася лёгкая стомленасьць, хацелася пасядзець. Мы залезьлі ў вялікую яму — напэўна тут быў бліндаж у час вайны, — расклалі вогнішча і з апэтытам, які бывае толькі на паляваньні, пасьнедалі.

Хутка да нас на дымок падыйшоў незнаёмы паляўнічы. Прывіталіся, пацікавіліся вынікамі паляваньня, закурылі. Незнаёмы аказаўся лясьніком, жыхаром суседняе вёскі.

— Чаму тут ня відаць сьлядоў зайца? — папыталіся мы.

— Ды тут зайцоў няма. Лісіцы паелі, — грэючы каля вогнішча рукі, адказаў лясьнік.

— Лісіцаў шмат, а паляўнічых на іх мала.

Далей ён расказаў нам гісторыю пра адну пару мацёрых ваўкоў.

Тыдні тры таму хтосьці, праяжджаючы ўначы па шашы, спад сьвятла фараў аўтамашыны, застрэліў аднаго з двух ваўкоў, што беглі па дарозе. Забітая аказалася ваўчыца. Воўк — самец з таго часу пачаў адзін блукаць па навакольлі. Забягаючы то ў адну, то ў другую вёску, ён нахабна залазіў у двары і часта цягаў сабак. Воўк нібы помсьціў за сьмерць ваўчыцы. І ў гэную ноч ён быў у вёсцы, дзе жыў лясьнік, і схапіў там сабаку.

— І вось я яго й ганяю ад самага золку. А ці яго, чорта, дагоніш? Так, крыху напалохаў, — гаварыў лясьнік.

Пакурыўшы, мы разьвіталіся зь лясьніком і пайшлі ў тым кірунку, дзе паводля слоў лясьніка, можна было знайсьці зайца.

Мы йшлі па сухім балоце. Купіны, засыпаныя сьнегам, нагадвалі старыя калматыя пні. Нізкія й рэдкія сасонкі чаргаваліся з такімі-ж рэдкімі кустамі вербалозу. Сумна й ціха было навокал, і толькі лёгкі ветрык часамі шамацеў сухою асакою. Някрануты сьнег рыпеў пад нагамі, і здавалася, што, акрамя нас дваіх, яшчэ ніхто не зьяўляўся ў гэтых мясьцінах.

Але вось уперадзе мы заўважылі чыйсьці важкі сьлед. Прыдзірліва аглядаем яго: сумлеваў няма. Спакойнай роўнай рысьсю тут прабег воўк. І зусім нядаўна. Камякі сьнегу, што ляжалі па баках і ўперадзе ямак ад лап можна было зьдзьмуць. Успомніўся расказ лясьніка.

... Калі гэта той самы воўк, то зьвер сыты, і, мяркуючы па сьледзе, ён пайшоў на лёжку. Але дзе ён ляжа? Ці зможам мы падыйсьці да яго блізка? Ці хопіць кемлівасьці й цярпеньня?

Гэтыя пытаньні ўзьнікалі ў нас таму, што ні я, ні мой сябра ніразу ў жыцьці не палявалі на такога хітрага зьвера, як воўк.

Мы абодвы лічылі, што гэткае паляваньне патрабуе асаблівай падрыхтоўкі, і што проста немагчыма забіць ваўка, ідучы па ягоных сьлядох.

Мы доўга хадзілі ў дарэмных пошуках. Час набліжаўся да вечара, наперадзе нічога пэўнага ня было. Мы пераглянуліся, зразумелі адзін аднаго і перазарадзілі стрэльбы буйным шротам. Спакуса была вялікая.

... Мой сябра ішоў па сьлядох. Мэтраў пяцьдзесят правей ад яго ішоў я, стараючыся заходзіць крыху наперад. Ішлі мы вельмі павольна, ціха, прыслухоўваючыся. Лес гусьцеў. Хмызьнякі й купіны перашкаджалі нам, але паляўнічы газард узрастаў.

Мой напарнік раптам падняў руку і жэстам паклікаў мяне. Падыйшоўшы да яго, я ўбачыў выразны сілуэт вялікага ваўка, адбіты на сьнезе. Зьвер толькі што ляжаў тут на правым баку. Ён падняўся і пайшоў далей, магчыма адчуўшы нас. Але сьлед далей такі спакойны й роўны, значыцца ён не напалоханы і дзесьці зноў хутка ляжа.

Стрымліваючы дыханьне, каб не парушыць неабходнай цяпер цішыні, мы йшлі далей.

Хутка густы й чорны лес нечакана скончыўся. Наперадзе была вялікая паляна-высека парослая маладым ельнікам. Елачкі расьлі так густа, што мясьцінамі зусім закрывалі сабой зямлю. Сьлед ішоў туды. Усё гаварыла за тое, што зьвер павінен легчы якраз тут.

Недалёка, правей ад нас, ішла прасека. Я асьцярожна выйшаў па ёй напярэрэз зьверу і стаў за елкі. Мой сябра прайшоў недзе лявей сьледу.

Белая стужка прасекі была мне добра відаць бадай на добрую сотню мэтраў. Улева ад яе быў малады яловы зарасьнік, направа ўзвышаліся старыя елкі й асіны.

Марудна цягнуцца сэкунды. Ад напружанай цішыні шуміць у вушах.

Але вось зь цёмна-зялёнага зарасьніку нячутна, як цень, грацыёзна скочыў рыжавата-шэры воўк. Чорная мушка ствала прамільгнула недзе трохі ніжэй за шыю зьвера, грымнуў стрэл, узьняўся сьвежы пыл, і зьвер быццам застыў на белай прасецы.

— Сюды! Ёсьць! — крычу я падбягаючы да ваўка.

— Ён яшчэ дыхае, не падыходзь! Дабівай! — крычыць мне сябра.

З хвіліну пачакаўшы, я неахвотна зарадзіў левы ствол у патыліцу зьвера. Ён уздрыгнуў, нейк павольна падагнуў лапы і замёр.

**Р. Э.**